● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

12 сакавіка 1996 г. аўторак, №№ 68-69 (22871-22872)




# ЗВЯЗДА

*РОЗГАЛАС*

## ПРЭЗІДЭНТ НАВЕДАЕ ГОМЕЛЬШЧЫНУ

**Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка адпраўляецца 12 сакавіка ў двухдзённую паездку па Гомельскай вобласці.**

Кіраўнік дзяржавы наведае шэраг прамысловых, аграрных прадпрыемстваў рэгіёна і прадпрыемстваў аблспажыўсаюза. У іх ліку — вытворчае аб'яднанне «Гомсельмаш», акцыянернае таварыства «Гомельшкло», саўгас «Брылёва».

Па выніках паездкі будзе праведзена нарада з удзелам прадстаўнікоў Кабінета Міністраў, міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, а таксама кіраўнікоў выканаўчай улады і буйнейшых прадпрыемстваў Гомельшчыны.

**БЕЛТА.**

## ЛЁД КРАНУЎСЯ?

**Як вядома, запланаваныя на канец лютага масавыя акцыі пратэсту прафсаюзаў не адбыліся. Адной з галоўных прычын стала абяцанне Прэзідэнта поўнасцю разлічыцца з працоўнымі па заработнай плаце да 8 сакавіка. Вызначаны тэрмін мінуў. Ці спраўдзіліся абяцанні? Гэта пытанне карэспандэнт «Звязды» паспрабаваў высветліць у Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі, якая, нагадаем, і выступіла ў свой час з ініцыятывай масавага выхаду працоўных Беларусі на плошчы.**

Па словах сакратара Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў Мікалая Герасіменкі, пакуль ён валодае толькі папярэдняй інфармацыяй аб выкананні абяцанняў Прэзідэнта. Але яна абнадзейвае: заработная плата выплачана практычна на ўсіх прадпрыемствах радыёэлектронікі і аўтасельгасмаша. Разам з тым засупакойвацца на дасягнутым у прафсаюзах не збіраюцца. Па-першае, таму што па-ранейшаму застаецца нявыкананым шэраг патрабаванняў аб змяненні дзяржаўнай палітыкі ў плане падтрымкі прамысловых прадпрыемстваў. І па-другое, няма ўпэўненасці ў тым, што практыка своечасовай выплаты зарплаты працягнецца і надалей.

Таму на наступным тыдні плануецца зноў правесці пасяджэнне Каардынацыйнага савета з удзелам прадстаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў Беларусі, на якім, як чакаецца, будзе абмеркаваны план далейшых дзеянняў прафсаюзаў.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ДОБРАЯ МЕДЫЦЫНА — ТОЛЬКІ ПЛАТНАЯ МЕДЫЦЫНА?

**За мінулы год прыросту насельніцтва ў г. Мінску не назіралася. На 15 працэнтаў павялічылася колькасць смяротных зыходаў ад харчовых атручэнняў, на 7,6 працэнта — ад захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы. Быў адзначаны рост венерычных захворванняў — на 95 працэнтаў, на туберкулёз, дыфтэрыю — на 90 працэнтаў. Гэтыя і іншыя факты былі прыведзены на прэс-канферэнцыі ў Мінгарвыканкоме, якую правёў намеснік старшыні выканкома па пытаннях аховы здароўя і сацыяльнай абароны Ігар Зелянкевіч.**

Ён паведаміў журналістам, што ў бліжэйшы час плануецца правядзенне эксперымента па адпрацоўцы добраахвотнага медыцынскага страхавання.

Для замежных грамадзян яно стане абавязковым, зрэшты, як і для грамадзян краін СНД у тых выпадках, калі паміж нашымі дзяржавамі не дзейнічаюць міжурадавыя пагадненні. Тым, хто пажадае набыць медыцынскую страхоўку, будзе прадастаўлена магчымасць выбару лепшага ўрача ці медыцынскай установы. Мэта гэтага эксперымента — падрыхтаваць сістэму аховы здароўя да абавязковага медыцынскага страхавання.

Сёння ўжо распрацоўваецца новая сістэма дыспансерызацыі насельніцтва. У хуткім часе чакаецца непазбежнае скарачэнне ложка-месцаў у стацыянарах за кошт ліквідацыі так званых «сацыяльных» ложка-месцаў. Для людзей, якія маюць патрэбу ў сацыяльнай дапамозе, на базе 1-й дзіцячай бальніцы будзе арганізаваны медыцынскі цэнтр. На сённяшні дзень утрыманне такога ложка-месца абыходзіцца дзяржаве ў 2,5 млн. руб. штомесячна.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



**Няхай пашанцуе кожнаму: і рыбка на кручок не трапіць, і рыбакі не ўплывуць з сакавіцкім крыгаходам.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## НЕ ВЫКЛЮЧАНА, ШТО НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ Ў ВЫНІКУ ПАВОДКІ ДАВЯДЗЕЦЦА ЭВАКУІРАВАЦЬ КАЛЯ 13 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

### А ў Гродзенскім заапарку рыхтуюцца да эвакуацыі сваіх гадаванцаў

**Адзіны ў краіне, Гродзенскі заапарк — у трывожным чаканні веснавой паводкі. Тое, што яна наробіць бяды — відавочна. Пытанне толькі ў тым, наколькі сур'ёзна стыхія разгуляецца тут, у пойме Гараднічанкі. Мяркуючы па ўсім, літасці ад прыроды чакаць не выпадае. Таму ў заапарку цяпер рыхтуюцца да самага горшага — магчымай эвакуацыі сваіх гадаванцаў у калгасы, размешчаныя непадалёку ад абласнога цэнтра. Клопатаў у сувязі з гэтым шмат, і галоўны — гораду неабходна змайстраваць каля 500 клетак. Магчыма, дапаможа з апошнімі і Мінскі цырк.**

Паводле слоў загадчыка аддзела Гродзенскага аблвыканкома па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на ЧАЭС Станіслава Андрэеўскага, вышыня снежнага покрыва шмат дзе па вобласці перавышае 50 сантыметраў, прамярзанне зямлі дасягнула 1,5 метра, а таўшчыня лёду на рэках — 70 сантыметраў. Гідраметэаролагі прагназіруюць, што ўзровень вады ў Нёмане ў раёне Гродна падымецца на 4 метры. Для параўнання: леташні паказчык склаў 1,37 метра, затое ў 1958 годзе было аж 9 метраў. Тады пад затапленне трапілі, у прыватнасці, піўзавод і тонкасуконны камбінат. Сёлета ж паводка, акрамя заапарка, вельмі сур'ёзна пагражае і унікальнаму помніку нашай гісторыі — Барысаглебскай Каложскай царкве, якая на сваім вяку ўжо зведала столькі гора ад стыхіі, што кожны чарговы яе наступ можа мець самыя катастрафічныя вынікі. Магчыма, менавіта сёлета прагучыць апошні «званок» аб тым, што далейшага зацягвання з выратаваннем Каложы нашчадкі нам не даруюць. Аднак для агульных разважанняў цяпер не час, трэба жыць днём сённяшнім. А сёння горад збіраецца абараніць царкву ад паводкі з дапамогай падпорнай жалезабетоннай сценкі. Каб толькі ўсё добра атрымалася...

Яшчэ адзін «галаўны боль» мясцовых уладаў — гэта водасховішчы. Апошніх на Гродзеншчыне налічваецца 74, прычым толькі 34 з іх да сёлетняй вясны мелі пастаянных гаспадароў. Абласная камісія па надзвычайных сітуацыях цяпер дабіваецца замацавання кожнага вадаёма за канкрэтнай гаспадаркай, каб як след падрыхтавацца да паводкі. У найбольш небяспечным становішчы апынулася Рачуньскае вадасховішча ў Смаргонскім раёне. Для ўмацавання дамбы тут ужо падрыхтавалі тысячу мяшкоў з пяском, у абвод тутэйшай вёскі, каб прадухіліць яе затапленне, цяпер рыюць спецыяльны канал.

Дарэчы, не толькі гадаванцаў Гродзенскага заапарка чакае няхай часовая, але перамена месца жыхарства. Паводле ацэнак абласной камісіі па надзвычайных сітуацыях, паводкай можа быць затоплена ад 65 да 89 вёсак, у выніку чаго, не выключана, давядзецца эвакуіраваць каля 13 тысяч чалавек (для іх размяшчэння рыхтуюцца вайсковыя казармы, школы, дзіцячыя сады), а таксама прыкладна 10 тысяч галоў жывёлы з прыватных падворкаў. Такога ж лёсу, відаць, не пазбегнуць і «пастаяльцам» з 22 калгасных фермаў. У сувязі з эвакуацыяй вяскоўцаў узнікае і яшчэ адна праблема — аховы іх маёмасці ад магчымых ахвотнікаў нажыцца на чужой бядзе.

Камісія па надзвычайных сітуацыях працуе ў цесным кантакце з камандаваннем 28-га корпуса. Для барацьбы з ільдом ужо сфарміраваны групы падрыўнікоў, гатовы дапамагчы людзям салдацкія кухні. Таксама вырашаецца пытанне наконт прыкамандзіравання да проціпаводкавай работы аднаго-двух верталётаў, каб можна было правесці неабходную разведку і аператыўна даставіць падрыўнікоў у патрэбнае месца.

Час пакажа, наколькі эфектыўна падрыхтаваліся на Гродзеншчыне да «капрызаў» стыхіі, але страты падлічваюцца ўжо цяпер. У асноўным ад снежных завалаў пацярпелі калгасныя фермы. Паводле ж слоў Станіслава Андрэеўскага, у камісію па надзвычайных сітуацыях на сённяшні дзень паступілі дакументы аб кампенсацыі страт, агульны памер якіх складае прыкладна 5 мільярдаў рублёў. Гэта ўжо значна больш, чым прадугледжвалася бюджэтам на ліквідацыю надзвычайных сітуацый. Дарэчы, амаль усе 100 працэнтаў пацярпеўшых аб'ектаў не былі застрахаваны.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*Сямён ШАРЭЦКІ:*

## «КАНСТЫТУЦЫЮ НЕЛЬГА ПЕРАГЛЯДАЦЬ ШТОДЗЁННА»

**З нагоды другой гадавіны прыняцця Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што адзначаецца 15 сакавіка, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі правёў брыфінг для журналістаў шэрага беларускіх і замежных СМІ, падчас якога ён адказаў на пытанні, што так ці інакш звязаны з Канстытуцыяй.**

— Канстытуцыя — гэта не той закон, які трэба пераглядаць штодзённа, — зазначыў С. Шарэцкі, адказваючы на пытанне аб неабходнасці ўнясення змяненняў у дзеючую Канстытуцыю ў сувязі з мяркуемым стварэннем наднацыянальных расійска-беларускіх органаў. С. Шарэцкі патлумачыў, што Канстытуцыя не можа рэгламентаваць усе бакі дзейнасці дзяржаўных органаў, таму пры неабходнасці можна было б абысціся тлумачэннем тых ці іншых артыкулаў Канстытуцыі, не спяшаючыся са зменамі. Аднак С. Шарэцкі адхіліў і іншы падыход — аб устанаўленні 5-гадовага мараторыя на змяненне Канстытуцыі, аргументуючы гэта тым, што ў маладой дэмакратычнай краіне павінна быць магчымасць вярнуцца і падкарэкціраваць нейкія недасканалыя моманты.

Не падтрымаў С. Шарэцкі і прапановы аб наданні Канстытуцыйнаму суду права рабіць тлумачэнні Канстытуцыі, зазначыўшы, што гэтым правам, на яго думку, павінен валодаць толькі орган, які прымае Канстытуцыю і законы, — Вярхоўны Савет. Аднак ці даваць такое права КС ці не, — павінен вырашыць Вярхоўны Савет у цэлым. Акрамя таго, паводле слоў С. Шарэцкага, Вярхоўны Савет у бліжэйшы час будзе разглядаць пытанне аб увядзенні адказнасці за парушэнні Канстытуцыі і законаў. «Любое парушэнне павінна ацэньвацца грамадствам і ў маральным, і ў прававым плане», — зазначыў С. Шарэцкі.

— Я мяркую, што ў нас усе органы і заканадаўчай і выканаўчай улады імкнуцца не парушаць асноўныя прынцыпы Канстытуцыі, а калі і ёсць нейкія агрэхі, то заканадаўчая ўлада абавязкова будзе вяртацца да іх і папраўляць, — зазначыў С. Шарэцкі. У прыватнасці, парламент мае намер разгледзець заўвагі КС да Закона «Аб Вярхоўным Савеце».

Ацэньваючы нядаўна заключаныя дамоўленасці аб далейшай інтэграцыі з Расіяй, С. Шарэцкі заявіў, што ён падтрымлівае гэтую інтэграцыю. «Але ўсё гэта трэба рабіць разумна, у меру выспявання тых ці іншых абставінаў, умоў», — падкрэсліў Старшыня Вярхоўнага Савета. На яго думку, парламенту не трэба браць на сябе ацэнку тых або іншых гаспадарчых пагадненняў паміж дзвюма краінамі, але калі размова будзе ісці пра больш сур'ёзныя справы, пра карэнныя інтарэсы дзяржавы, то гэта не будзе рабіцца без адабрэння Вярхоўнага Савета. У прыватнасці, той дагавор, які мяркуецца заключыць у канцы гэтага месяца з Расіяй, на думку С. Шарэцкага, павінен быць абмеркаваны і ратыфікаваны парламентам.

— Дзень Канстытуцыі — гэта вялікае свята, бо само прыняцце Канстытуцыі — гэта вялікае дасягненне ў развіцці дзяржавы. У Канстытуцыі зафіксавана, што дзяржава стала суверэннай, зафіксаваны напрамкі развіцця краіны, — зазначыў С. Шарэцкі ў канцы брыфінгу і павіншаваў усіх з дзяржаўным святам — Днём Канстытуцыі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**Шаноўныя чытачы «Звязды»! ПАДПІСКА на нашу газету на другі квартал 1996 года ЗАКОНЧЫЦЦА 19 САКАВІКА. У вас засталося некалькі дзён. Чакаем вас ва ўсіх аддзяленнях сувязі!**

**Падпісная цана на «Звязду» — самая танная з усіх беларускіх штодзённых газет: 40.800 рублёў на квартал і 13.600 — на месяц. Рабіце свой выбар!**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВЫКАЗАЎ СПАЧУВАННІ НАРОДУ ІЗРАІЛЯ

У сувязі з гібеллю дзесяткаў людзей у выніку тэрарыстычных актаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў тэлеграму Прэзідэнту Дзяржавы Ізраіль Эзеру Вейцману.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў аддзеле друку і інфармацыі Міністэрства замежных спраў рэспублікі, у тэлеграме кіраўнік нашай дзяржавы адзначае, што паведамленне аб тэрарыстычных актах у Ізраілі, якія прывялі да гібелі людзей, вялікім болем адгукнулася ў сэрцах беларусаў. «Народ нашай рэспублікі асуджае тэрарызм, бо ён не можа з'яўляцца сродкам вырашэння палітычных праблем», — адзначыў Прэзідэнт.

Аляксандр Лукашэнка ад імя грамадзян Беларусі і ад сябе асабіста выказаў спачуванні прэзідэнту і народу Ізраіля, родным і блізкім загінуўшых.

**БЕЛТА.**

## НА ДЗЯРЖАВУ СПАДЗЯВАЙСЯ, А БУДУЙ САМ

Жыхары забруджанага чарнобыльскімі радыенуклідамі Лельчыцкага раёна разумеюць, што зараз спадзявацца на атрыманне дзяржаўнага жылля нельга. Лепей клапаціцца аб гэтым самім. Таму, як гаворыцца, упор зрабілі (і гэта правільна) на індывідуальнае будаўніцтва, за кошт сваіх уласных грашовых сродкаў. І тут нельга не прывесці наступныя лічбы. Калі ў 1991 годзе такіх забудоўшчыкаў было крыху за сто, дык летась — ужо ў пяць разоў больш. А за пяць апошніх гадоў індывідуальным метадам узведзены 1204 дамы. Сёлета, хаця і са «скрыпам» (прычыны ўсім вядомы) індывідуальнае будаўніцтва пашыраецца. І ў гэтым людзям неабходную дапамогу аказваюць мясцовыя ўлады: па меры магчымасці ім выдзяляюцца крэдыты, будаўнічыя матэрыялы, транспарт.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## НЕ КАНСТАТАВАЦЬ, А ПРАГРАМІРАВАЦЬ

**У мінулым годзе ў рэспубліцы спынена гіперінфляцыя і значна зніжаны тэмпы інфляцыі. У тры разы зніжаны тэмп росту цэн. Умацавана нацыянальная валюта і прадухілена даларызацыя эканомікі. Знойдзены новыя рынкі збыту. Цяпер беларуская прадукцыя пастаўляецца ў 97 краін далёкага замежжа, у тым ліку ў краіны Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Палепшаны гандлёвы і плацежны баланс.**

У той жа час не пераадолены спад у вытворчасці. Фінансавая стабілізацыя яшчэ кволая, стан прадпрыемстваў няўстойлівы. Рэнтабельнасць гаспадаркі знізілася ў два разы і склала ўсяго 9,4 працэнта. У два разы павялічылася колькасць нерэнтабельных прадпрыемстваў. Сродкаў на патрэбы прадпрыемстваў не хапае, прагрэсіруе натуральная аплата працы. Растуць даўгі за газ. Скарочаны аб'емы капітальнага будаўніцтва. Малы прыток замежных інвестыцый. Расце беспрацоўе. Зарплата не забяспечвае ўзнаўлення рабочай сілы. Працягваецца зніжэнне жыццёвага ўзроўню людзей...

Так характарызаваўся стан народнай гаспадаркі рэспублікі на пасяджэнні Кабінета Міністраў, якое пад старшынствам прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра адбылося нядаўна ў Доме ўрада. На пасяджэнні разглядалася адно пытанне «Аб стане эканомікі рэспублікі па выніках развіцця народнай гаспадаркі за 1995 год». З дакладамі выступілі міністр эканомікі Г.Бадзей і міністр фінансаў П.Дзік.

Размова на пасяджэнні была працяглай, жорсткай, крытычнай і самакрытычнай. Адзначалася, што многія кіраўнікі працуюць па-старому, не ўдзяляюць належнай увагі пошуку рынкаў збыту, у той час як ва ўмовах канкурэнцыі гэта становіцца галоўнай праблемай. Сярод прапаноў, што паступаюць ва ўрад, па-ранейшаму пераважаюць просьбы, з аднаго боку, вызваліць ад плацяжоў у бюджэт, а з другога — дапамагчы бюджэтнымі сродкамі, што само па сабе з'яўляецца цяжка сумяшчальным. Пры аналізе стану спраў на вытворчасці кіраўнікі прадпрыемстваў часта спыняюцца на канстатацыі сітуацыі, не задумваючыся аб распрацоўцы праграмы дзеянняў па выпраўленню становішча. Часта з-за няўзгодненасці ў дзеяннях цэнтральных і мясцовых органаў кіравання справа даходзіць да таго, што не выконваюцца распараджэнні Прэзідэнта. За гэта, за недастатковую ўвагу да праблем рэфарміравання эканомікі рэзкай крытыцы падверг урад кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч. Трэба не канстатаваць, а праграміраваць, прагназіраваць сітуацыю і жорстка патрабаваць ад кіраўнікоў за выкананне намечаных мерапрыемстваў, падкрэсліў ён.

У асобны артыкул на пасяджэнні вылілася размова аб выплаце запазычанасці па зарплаце і па пенсіях. Устаноўка Прэзідэнта наконт гэтага павінна быць выканана, указаў прэм'ер-міністр.

З прынцыповым заклікам звярнуліся члены Кабінета Міністраў да Вярхоўнага Савета. Яны выказалі перакананне, што ўвядзенне льгот і ігнараванне парламентам прапаноў урада па змяненню падатковага заканадаўства можа прывесці да цяжкіх вынікаў. Пакет прапанаваных Кабінетам Міністраў эканамічных законапраектаў павінен быць разгледжаны ў Вярхоўным Савеце без прамаруджання.

На пасяджэнні дадзены канкрэтныя даручэнні міністэрствам і кіраўнікам адміністрацый на месцах.

У пасяджэнні прыняў удзел намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка.

**БЕЛТА.**

*АФІЦЫЙНА*

## НАЗНАЧЭННІ, АДСТАЎКІ, ЗВАЛЬНЕННІ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Уладзімір Пятровіч РЫЛАТКА** назначаны першым намеснікам міністра культуры. Раней ён займаў пасаду намесніка міністра ў гэтым жа міністэрстве.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прыняў адстаўку **Уладзіміра Аляксандравіча ГІЛЕПА** і вызваліў яго ад пасады першага намесніка міністра культуры ў адпаведнасці з Законам «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце».

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь генерал-маёр міліцыі **Валерый Сяргеевіч ІЗОТАЎ** звольнены з органаў унутраных спраў у запас па ўзросту з правам нашэння ўстаноўленай формы адзення.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Аляксандр Сяргеевіч ХРЫСТАФОРАЎ** вызвалены ад пасады намесніка міністра абароны па тылу — начальніка тылу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і звольнены ў запас па хваробе з правам нашэння ваеннай формы.

Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праведзены новыя назначэнні ў Камітэце дзяржаўнай бяспекі.

Начальнікам упраўлення ваеннай контрразведкі КДБ назначаны **Канстанцін Антонавіч ХРУШЧОЎ.**

Начальнікам упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Магілёўскай вобласці назначаны **Мікалай Уладзіміравіч ТАНАНАЙКА.**

**БЕЛТА.**

## ВЫЗНАЧАНЫ ЛЕПШЫЯ ЭКСПАРЦЁРЫ СЯРОД БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

Беларуская гандлёва-прамысловая палата падвяла вынікі конкурсу на званне «Лепшы экспарцёр года», які штогод праводзіцца сярод прадпрыемстваў — членаў ГПП. Хрустальных кубкаў і памятных «жэзлаў Меркурыя» па выніках 1995 года ўдастоены завод імя Дзяржынскага навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл» — сярод прадпрыемстваў—вытворцаў сродкаў вытворчасці, магілёўскае народнае прадпрыемства «Вяснянка» — сярод прадпрыемстваў—вытворцаў тавараў народнага спажывання і мінскі завод «Крыон» — сярод прадпрыемстваў іншых галін прамысловасці.

Акрамя вызначэння пераможцаў у трох асноўных намінацыях, Беларуская гандлёва-прамысловая палата ўзнагародзіла дыпломамі Беларускі металургічны завод, Рэчыцкі метызны завод, акцыянернае таварыства па выпуску бытавых халадзільнікаў «Атлант», Мінскі механічны завод імя Вавілава, вытворчае аб'яднанне «Беларуськалій» і Гродзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот» за актыўны ўдзел у развіцці экспарту.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

## НАДВОР` Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўднёвых раёнах невялікі снег. Тэмпература паветра ў Магілёве, Віцебску — каля нуля, Гродне, Брэсце, Мінску — 0—2, Гомелі — 1—3 градусы марозу.

У наступныя двое сутак істотных ападкаў не чакаецца. Тэмпература ўначы — 7—12 грудусаў марозу, удзень — мінус 2 — плюс 3.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ

**у камерцыйных банках на 11 сакавіка 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.) | 11950 | 12100 | 8000 | 8250 | 2.20 | 2.50 | 067 |
| Белбізнесбанк (гар. дырэкцыя) | 11900 | 12100 | 7800 | 8200 | 2.35 | 2.55 | |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 12020 4870 | 12150 4980 | 8100 | 8300 | 2.43 | 2.49 | 531-504 |
| Мінскі транзітны банк*** | 11950 | 12100 | 8000 | 8250 | 2.30 | 2.50 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11950 | 12100 | 8000 | 8250 | 2.30 | 2.50 | 372-825 |
| Народны банк | 11980 | 12120 | 8050 | 8250 | 2.32 | 2.47 | 238-610 |
| «Алімп» | 12000 | 12150 | 8150 | 8400 | 2.44 | 2.52 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11950 | 12100 | 8000 | 8150 | 2.40 | 2.48 | 291-646, 067 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 11900 | 12300 | 8000 | 8400 | 2.30 | 2.50 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7746.72 | | 2.37 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4025 | | 3252.22 | | 100 бел.р. 40.02 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

## СЯМЁН ШАРЭЦКІ ВЫБРАНЫ ПРАВАДЗЕЙНЫМ ЧЛЕНАМ АКАДЭМІІ АГРАРНЫХ НАВУК

**Акадэмія аграрных навук рэспублікі папоўнілася правадзейнымі членамі і членамі-карэспандэнтамі. Тут на агульным гадавым сходзе вучоных выбрана 6 новых акадэмікаў і 4 члены-карэспандэнты.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА вучоны сакратар акадэміі Уладзімір Шчарбакоў, гэтых высокіх званняў удастоіліся Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі, галоўны саветнік упраўлення АПК апарату Кабінета Міністраў Леанід Кукраш, намеснік начальніка глаўка жывёлагадоўлі Мінсельгасхарчу Іван Шайко, дырэктар БелНДІ эканомікі і інфармацыі АПК Уладзімір Гусакоў, прарэктар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Мікалай Заяц і іншыя аўтарытэтныя вучоныя-аграрнікі краіны.

**БЕЛТА.**

## ТЭРОР АТРЫМАЕ АДПОР

**25 лютага я вылятаў з Мінска ў Ізраіль, у дзесяцідзённы водпуск. Але ўжо раніцай, да выезду ў аэрапорт, радыё данесла страшную вестку — у Іерусаліме арабскі тэрарыст узарваў рэйсавы аўтобус 18-га маршрута. Прыляцеўшы ў Ізраіль, я даведаўся пра сумную статыстыку — 24 забітыя, 52 параненыя. У тую ж раніцу другі тэрарыст-самазабойца ўзарваў узрыўчатку ў сумцы з цвікамі, забіўшы аднаго і параніўшы 24 ізраільцян. Адказнасць за абодва выбухі ўзяла на сябе экстрэмісцкая арганізацыя «Хамас».**

Я знайшоў краіну ў жалобе, у шоку. Мінула паўгода пасля папярэдняга выбуху ў аўтобусе ў Іерусаліме, і многія ізраільцяне спадзяваліся, што масавы тэрор ісламскіх экстрэмістаў пайшоў на спад. Выбухі 25 лютага вярнулі іх да сумнай рэчаіснасці. Не толькі іх, але і прэм'ер-міністра Шымона Перэса, які самым рашучым чынам, у вельмі рэзкай форме, патрабаваў ад Ясера Арафата палажыць канец дзеянням бандытаў «Хамас». Іудзея, Самарыя і сектар Газа былі перакрыты, але не быў спынены рух грузаў праз КПП.

І вось 3 і 4 сакавіка — два новыя магутныя выбухі: у аўтобусе ў Іерусаліме і ў самым людным месцы Тэль-Авіва, гандлёвым цэнтры «Дызенгоф». Сумны вынік — 30 забітых і больш як 160 параненых. Сярод іх дзеці ў маскарадных касцюмах, якія адзначалі свята Пурым.

Аднак не толькі аб жорсткасці тэрарыстаў-самазабойцаў сведчаць гэтыя акты тэрору. Яны лішні раз напомнілі аб тым, што мірны працэс у Палесціне задавальняе не ўсіх арабаў, што акрамя АВП з яе лідэрам Ясерам Арафатам ёсць нямала груповак, вялікіх або нязначных, якія не прымаюць ні мірных пагадненняў з Ізраілем, ні існавання яўрэйскай дзяржавы наогул. Ды і ў самой АВП ніяк не збяруць Палесцінскі савет, таму што не гатовы ануляваць параграфы Палесцінскай хартыі, якая заклікае да знішчэння Ізраіля.

Лідэр АВП аказаўся не ў стане выканаць і іншае абавязацельства: ліквідаваць ачагі тэрору, якія існуюць у падкантрольных яму раёнах, і перш за ўсё ў сектары Газа. І толькі пад пагрозай вяртання ізраільскіх ударных сіл служба бяспекі АВП арыштавала некалькі соцень актывістаў «Хамаса», спісы якіх, дарэчы, добра вядомы СБ Арафата.

Дарэчы, Ізраіль не мае намеру больш спадзявацца на аператыўнасць і антытэрарыстычны запал Арафата. На гэты раз перакрыты не толькі ўезд арабаў з кантралюемых тэрыторый, але і перамяшчэнне грузаў. Гэта мера будзе адменена не раней чым Ізраіль ачысціць гэтыя тэрыторыі ад бандытаў «Хамаса».

Па рашэнню ўрада створаны надзвычайны штаб барацьбы з тэрарыстамі-самазабойцамі. Давераныя яму спецыяльныя падраздзяленні надзелены надзвычайнымі паўнамоцтвамі для пошуку тэрарыстаў і іх натхняльнікаў, дзе б яны ні знаходзіліся, і нанясення ўдараў па іх. Ужо праведзена некалькі рэйдаў і затрымана больш як 250 актыўных членаў «Хамаса», узарваны дамы тых, хто ўчыніў акты тэрору. Прыняты асаблівыя меры па бяспецы на транспарце, аж да патрулявання аўтобусных прыпынкаў.

Трэба адзначыць, што падобныя рэйды на тэрыторыю, якая знаходзіцца пад частковым кантролем АВП, прадугледжаны пагадненнямі, распрацаванымі ў Осла, і не з'яўляюцца парушэннем дагаворанасці. Прэм'ер-міністр Ізраіля Шымон Перэс сказаў днямі, што мы і ў далейшым будзем захоўваць нормы права, аднак цяпер у аснову асноў будзе пастаўлены толькі адзін прынцып: урад павінен забяспечыць бяспеку сваіх грамадзян.

Дарэчы, рэакцыя гэтых грамадзян на хвалю тэрору была менш бурнай, чым можна было б чакаць. Верагодна, нават заўзятыя праціўнікі ўрада зразумелі, што цяпер не час для «разборак». І хоць пытанне аб стварэнні ўрада нацыянальнага адзінства не абмяркоўвалася ўсур'ёз, існуе адчуванне згуртаванасці перад агульнай бядой.

А калі ў твой дом прыходзіць бяда, то спачуванне і падтрымка вельмі важныя. У Ізраіль паступілі пасланні такога роду ад кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў дзесяткаў краін, у тым ліку і ад Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Заявіў аб асуджэнні тэрору і выказаў спачуванне народу Ізраіля і старшыня парламента прафесар Сямён Шарэцкі. У ходзе нашай сустрэчы, якая адбылася 6 сакавіка, ён падкрэсліў, што беларусам не абыякава, што адбываецца ў краіне, дзе жывуць дзесяткі тысяч былых землякоў. І сапраўды, да гэтага часу ў пасольства звоняць радавыя беларусы і выказваюць спачуванне народу Ізраіля.

Высока цэнячы падтрымку, мы ў Ізраілі мяркуем, што дружалюбныя нам краіны не могуць абмежаваць сябе толькі ёю. Важна, каб яны патрабавалі ад такіх дзяржаў, як Сірыя, Лівія і Іран, спыніць падтрымку «Хамаса». Менавіта з такой заявай выступілі кіраўнікі сацыялістычных партый еўрапейскіх краін на нарадзе 9 сакавіка.

Нават нарады і сустрэчы ў вярхах, спецыяльна склікаемыя для барацьбы з тэрорам, могуць аказацца «пратакольнай гаварыльняй», калі іх удзельнікі абмяжуюцца дэкларацыямі. Падобныя апасенні існуюць і адносна нарады, склікаемай пад эгідай прэзідэнтаў ЗША і Егіпта ў Шарм-аш-Шэйху 13 сакавіка. Адна з мэтаў гэтай сустрэчы — не даць патухнуць мірнаму працэсу на Блізкім Усходзе. У святле хвалі тэрору мы не толькі адклалі перагаворы з АВП аб далейшым пашырэнні аўтаноміі, але і адклікалі групу дыпламатаў і экспертаў з перагавораў з Сірыяй у Вашынгтоне. Рух да міру не можа быць аднабаковым. Разам з тым, мой урад не адмовіўся ад імкнення палажыць канец араба-ізраільскаму канфлікту і прадоўжыць намаганні па яго вырашэнню тады, калі будзе забяспечана бяспека нашых грамадзян.

Мы ў Ізраілі ўпэўнены, што на 48-м годзе незалежнасці краіна, якая дасягнула ўражальных эканамічных поспехаў і неаспрэчнай ваеннай перавагі, справіцца з гэтай навязанай яму вайной — вайной з арабскім тэрорам апантаных фанатыкаў-самазабойцаў.

**Эліяху ВАЛК,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Беларусі.**

**Спецыяльна для газеты «Звязда».**

## АБ НЕКАТОРЫХ АСПЕКТАХ ПРЫМЯНЕННЯ ЎКАЗА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**У адпаведнасці са шматлікімі запытамі ў адрас Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь суб'ектаў гаспадарання, банкаў па пытаннях прымянення палажэнняў Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 31 «Аб удасканаленні дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі» Нацыянальны банк тлумачыць, што Інструкцыя аб парадку абавязковага продажу паступленняў у замежнай валюце на рахункі суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь № 77 ад 30.01.96 распрацавана і зацверджана ў поўнай адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 31 ад 25.01.96.**

Нацыянальны банк у межах паўнамоцтваў, прадастаўленых Указам (п.3.2), унёс на разгляд Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні дапаўненняў ва Указ № 31, які датычыць расшырэння пераліку выпадкаў вызвалення прадпрыемстваў ад абавязковага продажу.

Таксама адзначаем, што ўсе пытанні, якія датычаць вызвалення суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь ад абавязковага продажу валютных паступленняў у адпаведнасці з Указам, знаходзяцца ў кампетэнцыі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, які ўзгадняе неабходныя прапановы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

У той жа час хацелася б адзначыць, што збор у памеры 10 працэнтаў у дзяржаўны фонд падтрымкі экспарцёраў з'яўляецца адным з плацяжоў, якія поўнасцю паступаюць на рахункі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь і затым ім расходуюцца. У сувязі з гэтым пытанні, якія датычаць гэтага збору, неабходна накіроўваць у адрас Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта № 31 п.3.3 вызваленне суб'ектаў гаспадарання ад уплаты збору разглядаецца Кабінетам Міністраў па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Намеснік дырэктара дэпартамента ДВЭР Н. В. ЛУЗГІН.**

РОЗДУМ НАД ПІСЬМОМ

# «НАМ ВЕЛЬМІ СОРАМНА ПРАСІЦЬ...»

## Чаму жабрацтва не толькі набывае розныя формы, але з індывідуальнага ператвараецца ў калектыўнае?

**НЕ ХОЧАЦЦА ПАЧЫНАЦЬ з гэтага бядотна-крыўднага і абразлівага слова, але факт ёсць факт: у наш нялёгкі час жабракоў становіцца ўсё больш. Заўважана і тое, што свой «плацдарм» яны, як правіла, выбіраюць у самых бойкіх, мнагалюдных месцах: на чыгуначных і аўтобусных вакзалах, рынках, у падземных пераходах, ля буйных магазінаў. Тактыка тут даволі простая і зразумелая: больш народу — значыць і больш прахожых нешта ахвяруюць, пададуць гаротніку.**

Формы і метады свайго нікчэмнага заробку ў гэтых людзей таксама розныя: ад працягнутай рукі і шчымлівага надпісу-просьбы на грудзях да імправізаванага канцэрта пад гармонік. Што ж, кожны, як умее і можа, збірае на хлеб надзённы, на пражыццё.

У рэдакцыю «Звязды» таксама нярэдка прыходзяць пісьмы, аўтары якіх, перш за ўсё мнагадзетныя маці, даведзеныя да адчаю, просяць надрукаваць іх «крык душы», спадзеючыся хоць на якую-небудзь дапамогу. І сёй-той з чытачоў адгукаецца, падтрымлівае, дапамагае — свет жа не без добрых, міласэрных людзей.

Але, зазначым, гэта жабрацтва, у якім бы яно выглядзе ні праяўлялася, індывідуальнае. На жаль, у апошні час (відаць, такая ўжо наша рэчаіснасць) гэта непрыглядная з'ява выходзіць за рамкі нейкай канкрэтнай асобы і набывае больш шырокія маштабы, — адным словам, мае ўжо і калектыўныя рысы. Прытым, заўважце, просяць не на кавалак хлеба і не на вопратку ці абутак для дзетак, а на рэчы больш значныя і дарагія.

Допіс, што даслаў нам чытач, як ён адрэкамендаваўся, з дваццацігадовым падпісным стажам на «Звязду», жыхар в. Вярхі Ельскага раёна Міхаіл Дыбчук, яскравае таму пацвярджэнне. Перш-наперш ліст своеасаблівы сваім афармленнем: на ім, акрамя некалькіх подпісаў, нават пастаўлены дзве пячаткі. Як можна зразумець, для аўтарытэтнасці і саліднасці. Ці, можа, па нейкай іншай прычыне? Навошта? Аўтары паслання і без таго — асобы важныя, вядомыя ў сваёй мясцовасці і ў раёне. Хто ж яны? Гэта — дырэктар Нова-Дуброўскай базавай школы М. Шэцка, старшыня праўлення калгаса «40 гадоў Кастрычніка» Д. Кохан, старшыня прафкома Г. Уласенка, інжынер В. Гуд і намеснік старшыні калгаса па ўнутрыгаспадарчых справах М. Раманаў.

Як бачым, кіраўнікі ўстаноў, арганізацый, спецыялісты. А вось выставілі сябе ў ролі самых звычайных, прабачце, жабракоў.

«Дапамажыце нам, маласільным людзям, — гаворыцца ў іх звароце, — набыць хоць які-небудзь мікрааўтобус для перавозкі нашых дзетак у школу на заняткі і пасля іх — дамоў, а таксама механізатараў, жывёлаводаў, паляводаў на рабочыя аб'екты».

Ніхто і не аспрэчвае: і школе, і калгасу неабходны аўтобус, каб на ім падвозіць школьнікаў, калгаснікаў. І тут варта не толькі паспачуваць, але і хоць чым-небудзь дапамагчы. Тым больш, што ў пацвярджэнне просьбы прыводзяцца важкія аргументы. Два «саматужныя» аўтобусы з-за тэрміну даўнасці выйшлі са строю і выкарыстоўваць іх нельга. Дзеці зараз па занесеных снегам дарогах вымушаны дабірацца ў школу пешшу за 5-6 кіламетраў і часта спазняюцца на 1-2 урокі. Па той жа прычыне са спазненнем прыходзяць на работу механізатары, жывёлаводы, паляводы. Грошай на пакупку аўтобуса няма...

Што і казаць, становішча цяжкае, крытычнае. Наколькі вядома, у такой сітуацыі сёння апынуліся амаль усе сельскія школы і гаспадаркі. Але там, дзе шукаюць нейкія шляхі, робяць адпаведныя і магчымыя захады, усё ж іх знаходзяць, выходзяць з тупіка. А як жа інакш? Зараз такі час: каб працаваць і жыць, трэба перш за ўсё спадзявацца на сябе, а не на падачку. Аўтары ж пісьма, назваўшыся «маласільнымі людзьмі», тым самым паказалі сябе зусім бездапаможнымі. Будзем шчырымі: няўжо пытанне аб набыцці аўтобуса нельга было станоўча вырашыць калі не ў раёне, дык у вобласці? Вядома ж, хоць і нялёгка, але можна было. Іншая справа, калі гэтым там не займаліся ці не захацелі займацца, а проста адфутболілі. У такім разе гэта ўжо дрэнна. Аднак аб такой адмове ў пісьме не сказана ні слова.

Хутчэй за ўсё ельскія чалабітчыкі, як цяпер стала модным і распаўсюджаным, адразу звернуцца да Прэзідэнта (хіба ў Прэзідэнта мала іншых, больш важных спраў) і папросяць з яго рэзервовага фонду грошай на аўтобус. Нічога не «выгарыць» там, адмовяць, тады ў запасе ёсць іншы, запасны варыянт: папрасіць дапамогі ў якой-небудзь краіны СНД. Нічога сабе размах! Толькі наўрад ці з яго што атрымаецца: у любой краіны СНД сваіх такіх пытанняў хоць гаць гаці. Не пройдзе і гэты нумар (а ён, вядома ж, не пройдзе), тады, як сказана ў пісьме, застаецца пусціць шапку па кругу сярод еўрапейскіх дзяржаў. Вось толькі не дае спакою нашым аматарам адно пытанне: у якую з іх лепш звярнуцца? Што ж, паспрабуйце.

Усё гэта і наіўна, і прыкра. Існуе прапісная ісціна: любую праблему варта вырашаць на месцы. Рабіць жа гэта з працягнутай рукой, адчуваючы сябе нейкім утрыманцам, — і сорамна, і безнадзейна.

**Іван БРАЛКА.**

# ДЗЕЦІ НАСТАЎНІЦЫ



**Зінаіда Фядорэнка настаўнічае ў Верхніх Жарах. А некалькі гадоў таму месцам яе працы была пачатковая школа ў Ніжніх Жарах — самым паўднёвым населеным пункце не толькі Брагіншчыны — Беларусі. Ніжняжарскую школу закрылі з-за недахвату вучняў. Пяць гадоў назад, калі я рабіў фотарэпартаж пра гэтую вёску, іх было ўсяго сем. Суседства з Чарнобыльскай АЭС (15 км да станцыі) не магло не адбіцца на тутэйшай дэмаграфіі, хоць па-ранейшаму гэты куток Брагіншчыны лічыцца «чыстым».**

**Здымак зроблены ў Камарыне, куды настаўніца прывезла сваю школу, а разам і сваіх дзетак (на здымку) на чарговы медыцынскі агляд. Такая цяпер доля ў дзяцей — яны пад заўсёдным кантролем Рэспубліканскага дыспансера радыяцыйнай медыцыны. Называюць малых брагінцаў цяпер не проста чарнобыльцамі — групаю рызыкі. Вядома, чым рызыкуюць тут. А што будзе далей з імі — ніхто ў свеце не ведае. І таму назіранне гэта — важнае.**

**Зінаіда хоча бачыць у сваіх вучнях добры, змястоўны працяг. Але найпершае яе жаданне — уберагчы, ўратаваць малых ад бяды. І не яе віна, калі хваробы чапляюцца за жарскіх дзяцей. Летась і сёлета абследаванні далі кепскія факты: шчытападобныя залозы амаль усіх дзяцей гэтай тэрыторыі пашкоджаны. Пагаршаецца зрок, памяць, слабее фізічнае развіццё.**

**Праз дзесяць гадоў, як і ў год першы пасля катастрофы, адны і тыя пытанні задасць любы жыхар небяспечнай зоны: што рабіць? Як жыць далей? Хто абароніць? Вельмі многае ў гэтым свеце не залежыць ад простай вясковай настаўніцы. Але свет залежны ад настаўнікаў, ад таго, якія яны. Дзякуй Богу, у маленькіх верхняжарцаў ёсць настаўніца Зінаіда Мікалаеўна Фядорэнка, якая дзеліць з імі цяжкі іх лёс.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

# МЯСАЕД

**СЁЛЕТА Я ПАЧАЎ ПАСЦІЦЬ. Па-першае, станаўлюся, напэўна, веруючым, а па-другое, вырашыў сабраць на штаны. І чым даўжэй абыходжуся без мяса, тым настолівей лезуць у галаву розныя ўспаміны, звязаныя з тлустай ежай.**

Радзіны, хрэсьбіны і нават вяселлі — на вёсцы, вядома, святы. Але ёсць і яшчэ адно, якога чакаюць у кожным негультайскім двары і да якога рыхтуюцца, як да вялікай урачыстасці, — рэзаць кабанчыка.

Збіраецца радня, прыязджаюць з горада дзеці, прыходзіць сусед. На вуліцы яшчэ цёмна, але рытуал пачынаецца. Жанчыны грэюць ваду, рыхтуюць посуд, мужчыны бяруць па чарцы для смеласці, абмяркоўваючы ў каторы раз варыянты: рэзаць? калоць? страляць?

У кожнай вёсцы існуюць спецыялісты (на мясакамбінатах іх называюць афіцыйна байцамі жывёлы), для якіх справіцца з вепруком — раз плюнуць. Аднаго такога прафесіянала — Юру Арлова, які працаваў у свой час галоўным заатэхнікам Хоцімскага райсельгасупраўлення, а да гэтага ўзначальваў свінагадоўчую ферму, я добра ведаў. Юрый Аляксеевіч заходзіў у хлеў да ахвяры зусім адзін. Кабана не трэба было вязаць вяроўкамі або адцягваць яго ўвагу поўным карытам ежы. Арлоў гладзіў вепрука па шэрсці, той спакойна стаяў і не паспяваў хрукнуць, як валіўся ўжо забіты.

А ведаеце, як пагрузіць двухсоткілаграмовую свінню на машыну? Не варта збіраць талаку, бо з такой работай, аказваецца, можа справіцца адзін чалавек. Дастаткова на лыч начапіць пустое вядро, і жывёліна, спрабуючы вызваліць галаву з цемры, заднім ходам сама пойдзе туды, куды пажадае грузчык.

Але гаспадары, якія сябе паважаюць, лічаць за лепшае абыходзіцца сваімі, хоць і дылетанцкімі, сіламі. Чым гэта часам заканчваецца, я зараз раскажу.

Было гэта ў Сідараўцы, можна сказаць, прыгараднай краснапольскай вёсцы. Бачыць, як забіваюць жывое, я не магу, таму на смажаніну быў запрошаны ў якасці ганаровага госця. Аднак пакаштаваць пячонкі не давялося.

Мужыкі выпусцілі кабана ў двор, прывязалі за нагу нейкім тросам, павалілі, зарэзалі.

— Ну, няхай крыху астыне, — сказаў задаволены гаспадар, вызваляючы тушу ад путаў. — Хадземце пакуль у хату, прэміруем душы.

Пакуль «байцы» прэміравалі сябе, кабан знік. Што такое? Ён жа толькі што ляжаў тут, вось пляма крыві, няўжо ўкралі?

Зладзеяў, калі б яны ўчынілі злачынства, сама меней павінен быць тузін пры ўмове, што ў іх адсутнічаў грузападымальны кран.

А «пячонка», аказваецца, проста збегла. Праламіла агароджу і знікла ў невядомым напрамку. Зіма тая была бясснежная, зямля скавана марозам, так што слядоў ніякіх. Кабана знайшлі толькі праз дзень. Ляжаў ён у кустах кіламетры за два ад вёскі, грунтоўна пагрызены сабакамі. Дасталі сэрца — цэлае. Кабанчыка, выходзіць, усяго толькі пазыталі шылам, ад страху ён апынуўся ў шоку, а калі ачомаўся, ірвануў ад патэльні куды вочы глядзяць.

У Азяроўцы Хоцімскага раёна свежаніна магла б наогул закончыцца трагічна. Іван Сотнікаў, з якім мы сябруем, папрасіў дапамагчы зарэзаць матчынага парсюка.

— Гэта не для мяне, не з маімі нервамі, — адмовіўся я.

— Дапаможаш толькі смаліць. А завалю з ружжа, — пераканаў Іван.

Кабан трапіўся нейкай дзікай пароды, палова тулава — галава. Іван стрэліў. Дзічок толькі крутануў галавой, задраў лыч і кінуўся на стралка.

А ружжо ў Івана было аднаствольнае. І патрон усяго адзін.

Кулю мы знайшлі потым у сцяне хаты. Іван выкалупнуў яе адтуль, узважыў на руцэ, з любоўю адзначыў:

— Рыхтаваў нібы для мядзведзя. Трэба ж, не прабіла чэрап. Напэўна, порах сыры.

І рукі ў яго дрыжэлі.

Выратавала Івана куча гною. Ён імгненна, як альпініст, забраўся на самую вяршыню, а раз'юшаны звер хадзіў вакол і яшчэ больш вар'яцеў ад бяссільнай злосці: капыты дзейнічалі, як канькі, бо гной быў пакрыты тоўстай ледзяной скарынкай.

Я нічым не мог дапамагчы, бегаў па суседзях, пакуль не знайшоў паляўнічага.

Усе гэтыя няшчасныя, хоць і анекдатычныя, выпадкі адбыліся тады, калі царква адзначала вялікі пост. Вось і думай, ёсць Бог ці не.

Цяпер па частцы посту быццам прасцей. Толькі не ў вёсках. Гудзяць на Магілёўшчыне паяльныя лямпы і пахне смажаным. Грэшных сялян вінаваціць не бяруся — не ўсявышні. Але і Бог, думаю, ім прабачыць, бо вяскоўцы тут ні пры чым. Зарплату, з-за няхваткі грошай, ім аддаюць натурай — каму птушкай, каму парсючкамі. Свіней раздалі нават работнікам Клічаўскага лясгаса: з імі дзёдзямі разлічыліся за лес.

Таму і пайшла жывёла пад нож: не трымаць жа яе да старасці. Так што баюся, як бы вялікі пост не стаў сёлета вялікім мясаедам. Міжволі.

А вось гараджанам лепш. З балалайкай або, напрыклад, ботамі — усімі гэтымі рэчамі таксама выдаюць зарплату — пасціць можна. Не ўкусіш!

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

***Адукацыя на Беларусі мае свае здабыткі, вопыт і добрую практыку методыкі навучання. Аднак апошнія гады прадыктавалі новыя сацыяльныя, палітычныя і грамадскія ўмовы, у якіх павінна набываць адукацыю маладое пакаленне нашай краіны. Забеспячэнню новых падыходаў да адукацыі, арганізацыі і ажыццяўленню надзённых і вельмі значных для нашай рэспублікі перамен у навучанні і выхаванні моладзі прысвечана Распараджэнне Прэзідэнта «Аб падрыхтоўцы і правядзенні ў Рэспубліцы Беларусь рэформы агульнаадукацыйнай школы» ад 4 студзеня бягучага года.***

***У прэсе пачалося абмеркаванне прапаноў Міністэрства адукацыі і навукі па правядзенню рэформы. Выказваюць свае погляды настаўнікі і ненастаўнікі, бацькі і выхавацелі — людзі, не абыякавыя да будучыні нашай радзімы. Ставяцца пытанні, праблемы. Кожны жадае ўнікнуць, разгледзець сутнасць рэформы. Сёння хацелася б закрануць некаторыя праблемы, узнятыя ў лісце народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка І. Шамякіна (гл. «Звязда» за 1.03.96 г.). Таму і было вырашана пагутарыць з міністрам адукацыі і навукі прафесарам В. Стражавым.***

## *АБМЯРКОЎВАЕМ ПРАЕКТ РЭФАРМІРАВАННЯ ШКОЛЫ*

# ДАВЯРАЦЬ ПРАФЕСІЯНАЛУ

**— На якія разважанні навёў вас водгук пісьменніка аб рэформе школьнай адукацыі?**

— Пасля знаёмства з лістом вельмі паважанага мною Івана Пятровіча Шамякіна зрабілася крыўдна і сумна. На пэўнае імгненне я нават разгубіўся. Чаму? Тое, што ён падвяргае крытыцы, крытыкаваў бы і я, я цалкам з ім згодны. Але гэта не мае ніякага дачынення да таго, што прапаноўваем мы.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— Пачну з пераканання шаноўнага пісьменніка, быццам рэформа мае на мэце разбурэнне савецкай школы. Дазвольце выказаць упэўненасць у іншым. Наадварот, рэформа з'явіцца працягам далейшага развіцця савецкай школы, выкарыстаннем яе лепшых рысаў і традыцый. Некалькі тлумачэнняў.

Пасля рэформы 1958 года была прынята арганічная адукацыйная мадэль, быў зроблены пераход ад сямігадовага да васьмігадовага абавязковага навучання. Выпускнікам абавязковай васьмігодкі даваліся тры магчымасці — ці ісці ў ПТВ і атрымаць прафесію плюс адукацыю, ці ісці ў тэхнікум і атрымаць прафесію плюс адукацыю, ці ісці ў дзевяты-дзесяты класы і атрымаць толькі адукацыю. Пасля можна было трапіць у ВНУ.

Мы прапануем перайсці ад дзевяцігадовай абавязковай школы да дзесяцігадовай, якая пачынаецца з шасці гадоў. Пасля абавязковай дзесяцігадовай школы кожны будзе мець тыя ж магчымасці, што і раней. Далейшае агульнаадукацыйнае навучанне працягнецца ў 11—12 класах, якія будуць мець ліцэісцкую форму навучальнай установы. Прынцыпова ў арганізацыйным плане нічога не мяняецца, захоўваецца галоўнае, што было адметнай рысай васьмігодкі — завершанасць і ўзроўневая закончанасць адукацыі. Такім чынам, лёгка пераканацца, што мы не адмаўляемся, а, наадварот, развіваем вартасці савецкай школы, узбагачаемся яе каштоўнасцямі. Не ўсе, мабыць, зараз ведаюць і памятаюць, што тая васьмігадовая школа, якая з'явілася ў 50-х гадах, была страчана з цягам часу. Гісторыя шмат чаму вучыць.

**— Васіль Іванавіч, аўтар ліста, як ён сам выказваецца, «спатыкаецца» аб узрост навучання.**

— Адносна навучання дзяцей з шасці гадоў. Вельмі шкада, што дасведчаныя ў галіне педагогікі людзі знаходзяцца, калі можна так сказаць, у інфармацыйным вакууме. Я не маю тут на ўвазе канкрэтных асоб. Для непедагога гэта, можа, і звычайная справа, для простага чалавека так і павінна быць.

Фактычна навучанне дзяцей з шасці гадоў пачалося з 1978 года. Заўважу: навучанне дзяцей з 6 гадоў — гэта рыса ўсіх краін свету. Магу сцвярджаць, што 18 гадоў назад пераход да навучання з шасцігадовага ўзросту быў не зусім удалым. Мы не былі падрыхтаваны належным чынам. Узрост з 6 да 7 гадоў спецыфічна- індывідуальны і патрабуе пільнай увагі, педагагічнага майстэрства, раўнавагі і мудрасці. Было прыкладзена шмат намаганняў навукоўцамі і педагогамі нашай рэспублікі, Савецкага Саюза, іншых краін свету. За 18 гадоў, якія адышлі ў мінулае і ўзбагацілі айчынную педагагічную навуку і практыку, мы няблага падрыхтаваліся, як метадычна, так і матэрыяльна. На сёння 50 працэнтаў дзяцей Беларусі вучацца з 6 гадоў, галоўным чынам гэта назіраецца ў сельскай мясцовасці і малых гарадах. У вялікіх гарадах заўважаецца тэндэнцыя адпраўляць у школу дзяцей з 7 гадоў. Мне здаецца, што гэта не лепшы выбар бацькоў. Я разумею, дзяржава павінна стварыць неабходныя ўмовы для паўнакроўнага вучэбнага працэсу ў такім узросце. Мы знайшлі выйсце і пайшлі па шляху стварэння належных умоў у дзіцячых садках. Канешне, не ўсё гладка атрымліваецца. І садкі сёння закрываюцца, і грошай не хапае, але мы будзем намагацца зрабіць так, каб дзеці маглі вучыцца ў садку школьны год.

**— Іван Пятровіч турбуецца за лёс маладых людзей, якіх, на яго думку, пасля абавязковай школы мы выкідваем на вуліцу.**

— Давайце зноў разбірацца. Наадварот, якраз сёння падлеткі ў такой сітуацыі, якой баіцца аўтар ліста ў «Дыскусійную трыбуну». Пасля абавязковай дзевяцігодкі ў няпоўных 15 гадоў чалавек сёння стаіць перад выбарам. 6 плюс 9 роўна 15 — простая арыфметыка. Мы ж прапануем, каб гэта, калі і здарыцца, то адбылося пазней на год. Прыгадаю такую рэч. У некаторых краінах за абавязак лічаць трымаць падлетка да 16 гадоў у школе, нават калі ён можа быць другагоднікам два разы. Споўнілася 16 — можаш пакінуць alma mater. У нас іншая карціна — мы павінны даць абавязковую адукацыю, калі чалавеку споўнілася ўжо 17 ці 18 гадоў.

Паўтараю: сёння пасля абавязковай дзевяцігодкі маладыя людзі аказваюцца на вуліцы да наступлення юрыдычнай дзеяздольнасці. І яшчэ. Пасля абавязковай дзевяцігодкі ці дзесяцігодкі ў ні адной краіне свету нельга паступаць у ВНУ. Я наогул не разумею падобнага аўтарскага неўразумення. Атрымліваецца нейкая блытаніна. Абавязковая школа не дае права паступаць у ВНУ. Так было раней, так ёсць сёння. Так было і за мяжой, і ў нас.

**— Новыя навучальныя ўстановы тыпу гімназій, ліцэяў прываблiваюць сваёй нязвыкласцю, але і адпужваюць недасягальнасцю. І Іван Пятровіч Шамякін выказвае такую перасцярогу.**

— Адносна думкі, што ў ліцэй пойдуць толькі дзеці заможных бацькоў. Тут зноў усё адбудзецца наадварот. Існуючая сістэма абмяжоўвае такія магчымасці, а прапаноўваемая адкрые зялёную вуліцу для ўсіх дзяцей.

Зразумела, што ліцэі могуць быць створаны, як правіла, у буйных гарадах. Таму ў прапановах міністэрства падкрэсліваецца, што ў сельскай мясцовасці будуць ствараца ліцэісцкія класы. Ліцэі пры ВНУ будуць накіраваны на абарону сельскай моладзі. Як сёння падрыхтоўчае аддзяленне працуе на сельскую мясцовасць, так і ліцэі пры ВНУ будуць працаваць толькі на сельскую моладзь. Такім чынам, у аснову прапанаванай рэформы пакладзена сацыяльная справядлівасць. Мы прыкладаем намаганні, каб рэфарміраванне дапамагло нам пазбегнуць сацыяльнай несправядлівасці, якая ўзнікла ў апошні час. Задача рэформы — зрабіць даступнай вышэйшую адукацыю для ўсіх і кожнага, хто гэтага пажадае. Не трэба прыніжаць ПТВ, тэхнікум. Яны, як і раней, таксама даюць адпаведную падрыхтоўку і права на паступленне ў вышэйшыя ўстановы.

Можна сказаць і пра далейшыя планы. Калі мы будзем павялічваць аб'ём ведаў за кошт дадатковага года навучання, то можна так прыстасаваць планы тэхнікумаў і ВНУ, што пасля заканчэння тэхнікума не трэба будзе вучыцца 5 гадоў, а з'явіцца магчымасць працягваць навучанне ў ВНУ з III курса. У нас ужо назапашаны вопыт у гэтай галіне, ён і будзе пакладзены ў падмурак той сістэмы, якую прапануецца развіваць.

Хацелася б адзначыць яшчэ адзін момант. І. Шамякін гаворыць пра тое, што вопытам апрабавана 11-гадовая школьная адукацыя. Але ўсе краіны з развітой рыначнай эканомікай маюць больш працяглы тэрмін навучання, чым у нас. У постсацыялістычных краінах ідуць актыўныя змены ў гэтым плане. У Балгарыі плануецца перайсці на 13-гадовае навучанне, Польшча ўжо перайшла.

Мы можам пайсці іншым шляхам, калі ўзнікаюць хваляванні наконт 12-гадовай адукацыі. У суседняй Польшчы ўведзены абавязковы нулявы клас. Мяркую, што можам зрабіць гэта і мы. Тады застанецца абавязковай дзевяцігодка, толькі ўжо не тая, якую маем сёння. Але гэта так, да слова.

**— А як наконт нацыянальнай справядлівасці?**

— Кожны павінен ведаць дзве мовы. І мы шмат робім у гэтым напрамку. Але трэба мець на ўвазе, што зараз мы знаходзімся ў пераходным перыядзе. І нельга не заўважаць гэтага. Міністэрства лёгка магло б выдаць загад, каб выпускнікі пісалі дзве дыктоўкі — па-беларуску і па-руску. Але ці падтрымаюць нас бацькі, вучні, грамадства? Трэба адрозніваць вывучэнне прадметаў і кантроль за іх вывучэннем. Гэта розныя рэчы. Я прасіў бы мець на ўвазе такую розніцу. Уявіце сабе, што ў нас тры абавязковыя экзамены — беларуская літаратура, рускі і беларускі дыктант. А чаму тады няма рускай літаратуры? І так атрымліваецца, што з 6 абавязковых у нас могуць быць чатыры філалагічныя.

Параўнаем лічбы. У 1989 г. у першы клас з беларускай мовай навучання пайшло менш за 19 працэнтаў, а ў 1995 годзе — амаль 40 працэнтаў. Адсюль выснова — грамадства не толькі падтрымлівае беларускую мову, але і жадае, каб дзеці вучыліся на беларускай мове. Таму перад намі паўстае задача, каб мы забяспечылі выбар мовы не толькі ў сярэдняй школе, але і далі права выбраць мову навучання і ў іншых навучальных установах. Зразумела, што за адзін год, за апошнія гады гэтага нельга было зрабіць, таму што не было адпаведнай беларускамоўнай падрыхтоўкі ў выкладчыкаў, было шмат іншых стрымліваючых фактараў. Дзіваком я выглядаў бы, калі б вынес на суд грамадскасці сцвярджэнне, што ў кароткачасовы перыяд можна пераўтварыць рускамоўнае выкладанне ў беларускамоўнае. Гэтае дзівацтва нам ужо знаёмае.

На пераход да беларускамоўнага навучання трэба мець перспектыву, трэба спланаваць нашу працу, каб знайсці аптымальныя шляхі.

**— Васіль Іванавіч, ці не трасе асабіста вас ад слова «рэформа»?**

— Разумею вашу іронію. У слоўніку Даля дадзены тры значэнні гэтага слова. Словы славянскія — змены, пераўтварэнне, перааўладкаванне. Можам карыстацца любым з іх, каб не пужаць людзей. Бо тое, што мы задумалі, і ёсць пераўладкаванне школьнай сістэмы на працягу 10 гадоў і далей.

Рэформа, калі яна добра падрыхтавана, павінна праводзіцца такім чынам, каб пра яе ведалі больш за ўсё настаўнікі. Дзеці як хадзілі, так і ходзяць у школу. Бацькі ведаюць, што іх дзеці ходзяць у школу і вучацца. І толькі настаўнікі прафесіянальна адчуваюць, што адбываецца пераўтварэнне, змена агульнаадукацыйнай сістэмы. Такое можа, мабыць, назірацца, калі грамадства поўнасцю давярае прафесіяналу, спецыялісту ў галіне педагогікі — настаўніку.

**Вёў размову**
**член Саюза журналістаў РБ**
**Віктар ІЎЧАНКАЎ.**

## *АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# РАЗ ДЫ РАЗОК

**«Давайце любіць адзін аднаго» — тэма першай песні «Я веру ў любоў» Валерыя Іванова і Уладзіміра Някляева (напісанай яшчэ дваццаць гадоў таму) з'явілася асновай іх супольнай дзейнасці, сяброўскіх адносінаў. Пачуццё, якое нараджаецца падчас стрэчаў, выяўляецца ў дзейнасці і ўжо ў іншай форме, матэрыялізаванай, паўстае перад грамадою, становіцца яе набыткам. Светлае пачуццё любові, праверанае сусветнай духоўнай практыкай, працінае асобу, напаўняе яе дзівоснай стваральнай сілай, пабуджае да актыўнага выяўлення сутнасці і пры адпаведных выпадках перарастае ў каханне. Любіць — гэта тварыць.**

Сяброўскія стасункі паміж Валерам і Уладзімірам, якія завязаліся ў 1974 годзе на брэсцкім семінары творчай і навуковай моладзі, паспрыялі напісанню шэрага вакальных твораў. Іх песні «Каханне нашага пара», «Радзіма», «Стары матыў», «Адзін да аднаго», «У кафэ каля вакзала», «Гуляць дык гуляць» цёпла прыняты грамадскасцю, трывала ўвайшлі ў скарбніцу беларускай эстрады. За песню «Лёс салдата» (на рускай мове) на Усесаюзным конкурсе патрыятычнай песні атрымалі медаль імя А. Аляксандрава.

У супольнай працы кампазітара і мастака склалася так: спачатку стваралася музыка. Валерый улоўліваў мелодыю, якая, здавалася, вітала ў прасторы, удакладняў яе, шліфаваў, а потым прапаноўваў тэму для паэтычнага тэксту. Яго здзіўляла фантастычная здольнасць Уладзіміра пранікнуць у сутнасць музычнай тэмы, адчуць яе інтанацыі, успрыняць кампазітарскія задумы і перажыванні, і затым усё, па-свойму асэнсаванае, перадаць мастацкім словам.

Гэтак ішла праца над песняю «Раз ды разок». Валерый занатаваў мелодыю. Чуйнае вуха кампазітара выявіла гармонію ў спалучэнні гукаў, што несліся над родным краем. Часам яму падавалася, што гэты напеў існуе сто, а мо і болей гадоў; яго чулі дзяды-прадзеды ў шапаценні садоў, пошуме ветру, жалобным стогне завеі. Валерый яшчэ не ведаў пра канкрэтны тэкст песні, дэталёвую інтэрпрэтацыю музыкі ў мастацкім слове, аднак жадаў аднаго: песня павінна быць пра жыццё, напружанае, бясконцае, напоўненае любоўю. Уладзімір увасобіў яго надзеі-жаданні ў паэтычных радках, напісаў верш у той танальнасці, што ішла ад музыкі. Мелодыя абуджала душу паэта, кіравала яго думкамі... І на аркушы вымалёўваліся вобразы, сімвалы: дружбы-сяброўства, што мацуецца справай, агульнымі клопатамі-перажываннямі і па спрадвечнай традыцыі засведчваецца за чаркаю («чарыца ходзіць па кругу»); любоў-каханне, што сілкуе нашае існаванне, пабуджае да актыўнай дзейнасці, патрабуе пастаяннай прысутнасці блізкай асобы, неразлучнасці з ёю і ўдзень, і ўначы; **вечны рух, вечнасць быцця, знітаванасць з Сусветам, выяўленне ў харастве** («вырасту васілёчкам»).

Мелодыя, напісаная ў рытме вальса, элегічнай танальнасці, выклікае спакойны роздум, вымагае асэнсавання перажытага. Тэкст прымушае прыгадаць канкрэтныя дэталі жыцця, успомніць яго светлыя моманты (сяброўства, каханне). У заканчэнні песні падсумоўваецца пройдзенае-дасягнутае: нібы ў калейдаскопе (псіхалагічны прыём) мільгаюць асноўныя этапы-вехі нашага жыццёвага шляху перад тым, як кожнаму з нас давядзецца перайсці ў іншую форму існавання: «вырасту васілёчкам», які «ціха празвоніць званочкам». І на ўсім гэтым шляху — актыўная пазіцыя («толькі не зляную»), якая шырока разгорнецца і ў будучыні, што пацвярджаецца своеасаблівым (па-зямному лагічна ўпарадкаваным) пералічэннем натуральных памкненняў асобы.

Да творчага працэсу Валерыя і Уладзіміра ў стварэнні песні арганічна далучалася Ліка (на той час салістка ансамбля «Верасы»). Яе голас тонка перадаваў пачуццёвыя перажыванні, закладзеныя ў музыцы і пазначаныя ў тэксце, заклікаў да задумлівасці і падштурхоўваў да весялосці-гуллівасці.

Хоць тэкст песні разлічаны на мужчынскае выкананне, аднак і паэт, і кампазітар прапанавалі выкананне песні чароўнай салістцы «Верасоў». Ліка выступіла паспяхова. І на прэм'еры песні, што адбылася ў 1994 годзе на фестывалі «Славянскі базар» у Віцебску, і ў 1995 годзе на конкурсе «Залатая ліра».

Песня «Раз ды разок» пастаянна гучыць у выкананні Лікі па радыё, тэлебачанні. І мы радуемся Сонцу, Жыццю, Любові.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## РАЗ ДЫ РАЗОК

*Музыка Валерыя Іванова*
*Верш Уладзіміра Някляева*

Ой ты, віно-гаркота,
Піў бы, каб не лянота.
Толькі я не зляную
Чарыцу зеляную.
Раз ды разок з разочкам
Чарка пайшла кружочкам.
Раз ды разок, чок-чок-чок-чок,
Чарыца ходзіць кружочкам.

Ой ты, любоў-ламота,
Млеў бы, каб не лянота.
Толькі я не зляную
Дзеўчыну маладую.
Раз ды разок з разочкам,
Ды пад бачок на ночку.
Раз ды разок, ды пад бачок,
Ды пад бачок на ўсю ночку.

Ой, ты жыццё-маркота,
Жыў бы, каб не лянота.
Толькі я не зляную
Маці-зямлю сырую.
Раз ды разок з разочкам
Вырасту васілёчкам.
Раз ды разок сінь-васілёк
Ціха празвоніць званочкам.

Ой ды я не зляную
Маці-зямлю сырую,
Чарыцу зеляную,
Дзеўчыну маладую.
У распісным вазочку
Дням пралятаць і ночкам...
Раз ды разок, чок-чок-чок-чок,
Чарыца ходзіць кружочкам,
Раз ды разок, ды пад бачок,
Ды пад бачок на ўсю ночку.

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 10 (29)

NTT 463 486DX2-66 $ 913
NTT 402 486DX4-100 $ 948
NTT 561 Pentium-60 $ 985
NTT 500 Pentium-100 $ 1209
NTT 510 Pentium-150 $ 1689

В конфигурацию входят: 4 MB RAM, 540 MB HDD, 14" монитор, видеокарта-1MB, а также клавиатура, mause.

Принтеры
EPSON Stylus-820 $ 340
EPSON LX-1050+ $ 320
EPSON LX-300 $ 195
MultiMedia
CD-ROM GoldStar $ 100

Возможна любая конфигурация по Вашему желанию.

95 · PCI · intel pentium · Energy Star · GoldStar · EPSON · Genius · Caviar · IDE · WESTERN DIGITAL · Гарантия 2.5 года · intel inside pentium

КОМПЬЮТЕРЫ **NTT**
ПОЛЬЗУЙТЕСЬ ТОЛЬКО ЛУЧШИМ

**ОТЛИЧНОЕ СОЧЕТАНИЕ ЦЕНЫ И КАЧЕСТВА**

- Все компьютеры **NTT** комплектуются:
- винчестерами **Western Digital** емкостью до 1,6 ГВ(самые надежные и быстрые винчестеры)
- мониторами **GoldStar** (15", 17",20"- полное цифровое управление)
- видеокартами **S3** (высочайшее быстродействие)
- мощными и быстрыми платами (**PCI** контроллеры, встроенные контроллеры **MIO**, **"green"** функция)
- клавиатурой фирмы BTC, мышью **Genius**
- **также к вашим услугам принтеры, сканеры, MultiMedia и сетевое оборудование**

TAIR
NEW TECHNOLOGY SYSTEMS
Тел: 292 999

BELKONT

РЕАЛИЗУЕМ А/М
ГАЗ грузовые, "Волги", ИЖ, УАЗ
САМОСВАЛЫ И РЕФРЕЖЕРАТОРЫ СПЕЦАВТОТЕХНИКА
АВТОБУСЫ ПАЗ-3205
KB
ПКП "ИВК"
(0172) 649 773, 641 441, 648 257

Вниманию энергетиков!
ЛЕБАК, Ltd.
РЕАЛИЗУЕТ
**КАБЕЛЬ**
Тел. (0172) 369-230

## *Рэклама ў „Кірмашы“ — шлях да поспеху ў Вашай справе!*

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| Двигатели к а/м ГАЗ24, ГАЗ53, М412, М2141 (1,7 л) и др. запчасти | | СФ «Орион» | (0222) 25-00-00 |
| Шины 6.40х13 к а/м ИЖ2715 | 890.000 руб. | ЧП «Остлайн» | (0172) 56-08-52 |
| МАЗ 54323 с п/п реэкспортный | | | (0172) 23-48-01, 46-59-06 (вечером) |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд (8—15 дней) | от 505$ | ТехноСтар | (0172) 39-47-14 |
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА И ДАЧНИКА** | | | |
| Мини-трактор МТЗ-082 | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотоблоки МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотокультиваторы «Крот» с комплектом с/х орудий | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Комплекты с/х орудий к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Картофелекопатели к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| **МАТЕРИАЛЫ** | | | |
| Лак НЦ 218, краска НЦ-25 | | | (0172) 65-36-74 |
| Провод ПС-25, 35, 50, 70 | Договорная | Организация | (0172) 77-61-09 |

**МИКРОАВТОБУС**

**«Subaru-Fudji»** -- 1989 г. в. 7 мест, 5 ст. к.п., полный привод 4х4, 1300 куб. см, 54 л. с., пробег 67000 км.

**Меняю** на а/м «Нива» или УАЗ-469 (модификации) не старше 3-х лет или продам.

**Тел. 8-0172 (2) 36-06-52.**

**OLIVER** цены снижены! **РЕАЛИЗУЕТ:**

| НАИМЕНОВАНИЕ | РУБ/КГ |
|---|---|
| **карбид кальция** 50/80 (Словакия) | 7.500 |
| **растворитель** Р-646 (с тарой) | 21.000 |
| **проволоку:** | |
| колючую оцинк. | 11.000 |
| оцинкованную Ø0.6-5мм | 17.000-7.500 |
| сварочную СВ08Г2С омедненную Ø1.4 | 11.000 |
| сварочную СВ08Г2С Ø3;4мм | 7.500;7.300 |
| пружинную оцинк. 65Г Ø2.2-4.5 | 12.500-10.500 |
| **клей** КМЦ 75/400 (обойный) | 37.000 |
| **сахар** | 6.400 |

*Тел.: (0172) 77-31-09, 77-80-11, 78-68-21.*

P&S

**Сардэчна віншуем з днём нараджэння ЦІХАМІРАВУ Зінаіду Вячаславаўну.**

*Жадаем кветкай заставацца ўсё жыццё.*
*Здароў'е, радасць -- гэта набыццё.*
*Хай непрыемныя турботы зыдуць у цень.*
*Шчаслівай будзьце век!*
*І ў гэты дзень.*

**Сябры і супрацоўнікі.**

## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЕЦЦА

Дом з садам на ўчастку 0,14 га у цэнтры Вілейкі Мінскай вобл. Даведкі па тэл. у Вілейцы 5-56-25.

Драўляны дом з пабудовамі, агародам у Вілейскім раёне. Тэл. у Вілейцы 5-36-00.

Хутар (40 сотак) каля пас. Пагранічны Гродзенскай вобл. Берастaвіцкага р-на. Тэл. (8-01511) 34-1-78.

Дом 6х12 (вялікі сад, агарод, побач рэчка, лес) у вёсцы Хацяж Ляхавіцкага раёна, 1500 $. Тэл. у Баранавічах 5-79-83.

Цагляны дом з прысядзібным участкам. Звяртацца: Гродзенская вобл., Берастaвіцкі р-н, в. Стары Дворац, вул. Леніна, 6. Паплаўскаму.

Матацыкл «Урал» з каляскаю, 73 г. в., у рабочым стане, 200 $. Тэл. у г.п. Мір Карэліцкага раёна 2-32-49.

Новую 4-х пакаёвую кватэру ў пас. Навасады, 12 км ад Барысава, гараж, участак і інш. Тэл. (01777) 70-4-12.

Дом 60 кв. м. у г. Вілейцы, цагляныя гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод 18 сотак. Тэл. у Мінску 57-90-00.

### РОЗНАЕ

Прадпрыемства-вытворца прапануе дзіцячы трыкатаж і швейныя вырабы. Тэл. (8-02233) 2-12-50.

Мяняю прыватызаваную аднапакаёвую кватэру ў г. п. Мядзель на Мінск, Маладзечна, Вілейку альбо прадам. Тэл. (8-271) 5-72-32.

## Рэкламны аддзел «Звязды»

**т/ф 32-04-52, 68-28-77**
**тэл. 32-31-98, 68-27-79**

*Всегда богатый у...*
**КОНСЕРВЫ РЫБНЫЕ**
ДОБРАТ
**оптом со склада**
Тел./факс:
в Минске (0172) 33-07-19,
в Бобруйске (02251) 4-79-14,
в Гродно (0152) 44-50-64.
*Льготные условия постоянным покупателям. Система скидок.*

Адгукніцеся тыя, хто скончыў Магілёўскі палітэхнікум у 1966 г. (гр. ОР-169). 222120, Барысаў-8, а/я 187. Мікалай БЕЛЬЧЫКАЎ.

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай аб'явы**

для тых, хто падпісаўся на нашу газету.
Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі

Пазначце паштовае аддзяленне, якое дастаўляе Вам "Звязду".
Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.
Тэлефон для даведак 68-28-71.

**Ксеракопія купона не прымаецца.**

Вера САЛАВЕЙ:

# «Банк — не толькі каса, з якой бяруць грошы, але найперш — папаўняюць»

***Час ад часу банкі трапляюць у эпіцэнтр палітычных страсцей: то іх абвінавачваюць у развале эканомікі, маўляў, загрэблі ўсе грошы, а прадпрыемствы засталіся ні з чым, то ў тым, што яны штучна ўзвінчваюць інфляцыю. Асабліва ім дастаецца, калі трэба адшукаць крайняга, свайго роду казла адпушчэння. Да таго ж, усіх без разбору абвінавачваюць у нейкіх канкрэтных праліках, недахопах.***

***Разам з тым ёсць жа банкі з даўняй і ўстойлівай рэпутацыяй надзейнага партнёра, якія шмат робяць для таго, каб дапамагчы ўтрымацца на плаву многім волатам айчыннай індустрыі, захаваць вытворчы патэнцыял. З адметнага боку, напрыклад, вызначаецца АКБ «Белпрамбудбанк». Аб тым, якія захады прымаюць спецыялісты гэтай установы, у прыватнасці буйнейшага структурнага падраздзялення — Мінскага гарадскога ўпраўлення АКБ «Белпрамбудбанка», і расказваецца ў матэрыялах выпуску. Дарэчы, сёння тут праходзіць штогадовы падагульняючы сход акцыянераў, якія і дадуць ацэнку зробленаму, вызначаць перспектыву на будучыню.***

***Напярэдадні гэтай важнай падзеі ў жыцці і спецыялістаў упраўлення, і акцыянераў мы сустрэліся з яго кіраўніком Верай САЛАВЕЙ і папрасілі пракаменціраваць важнейшыя здабыткі калектыву.***



ПАДВОДЗЯЧЫ ВЫНІКІ РАБОТЫ за мінулы год, — зазначае Вера Міхайлаўна, — можна канстатаваць, што, нягледзячы на складанасць эканамічнай сітуацыі, упраўленне АКБ «Белпрамбудбанка» па гораду Мінску ў поўнай меры выканала асноўныя задачы, вызначаныя стратэгіяй развіцця банка, і захавала лідзіруючае становішча на фінансавым рынку рэспублікі. Пра стабільную работу гарупраўлення сведчыць той факт, што ўласны капітал банка летась вырас у 2,7 раза і склаў 117,5 мільярда рублёў, а памер статутнага фонду павялічыўся ў 7,8 раза і дасягнуў 15,6 мільярда рублёў. За ўвесь гэты час упраўленне мела паказчыкі ліквіднасці і аплатаздольнасці значна вышэйшыя за стандартны ўзровень.

Упраўленне абслугоўвае каля 57 тысяч кліентаў розных формаў уласнасці і накірункаў дзейнасці, ажыццяўляе поўны комплекс банкаўскіх паслуг, праводзячы пры гэтым каля 15 тысяч аперацый за дзень. Імідж надзейнага, з устойлівым становішчам банка прыцягвае новых кліентаў. Для іх абслугоўвання створана філіяльная сетка, якая ахоплівае ўсе раёны Мінска. На буйных прадпрыемствах і ў прамысловых зонах адкрыты філіялы, якія дазваляюць больш сервісна і камфортна прадастаўляць комплекс банкаўскіх паслуг як прадпрыемствам, так і насельніцтву. У сваю чаргу шырокая сетка абменных пунктаў дазваляе максімальна наблізіць да спажыўцоў месцы аказання паслуг па куплі і продажы наяўнай замежнай валюты.

**— Сярод мноства «грахоў», што час ад часу ставяцца ў віну банкам, — быццам бы занадта высокія працэнты за карыстанне крэдытам. Маўляў, абдзіраюць банкі прамыслоўцаў, бы тую ліпку. А як на самай справе? Наколькі эфектыўныя крэдытныя ўліванні ў вытворчасць?**

— Ва ўмовах эканамічнай нестабільнасці наша ўпраўленне дакладна прытрымліваецца асноўнага прынцыпу сваёй дзейнасці — максімальна садзейнічаць захаванню вытворчага патэнцыялу базавых галін народнай гаспадаркі, накіроўваючы крэдыты і інвестыцыі на падтрыманне эфектыўных і грамадска значных вытворчасцей. У структуры крэдытнага партфеля крэдытныя ўкладанні непасрэдна ў прамысловасць склалі за мінулы год 52,5 працэнта, у будаўніцтва — 11,2, гандаль і грамадскае харчаванне — 9,7 працэнта і інш. За год аб'ём выдадзеных крэдытаў кліентам банка дасягнуў 605,5 мільярда рублёў. Па мэтаваму прызначэнню структура крэдытных укладанняў характарызуецца наступным чынам: на мэтавую дзейнасць прадпрыемстваў і арганізацый — 50,9 працэнта, на правядзенне экспартна-імпартных аперацый — 34 працэнты, інвестыцыі — 19,9 працэнта...

Вядома, што ў мінулым годзе многія прамысловыя прадпрыемствы горада працавалі нерытмічна. Няхватка ўласных абаротных сродкаў не дазволіла своечасова набываць камплектуючыя вырабы і матэрыялы, у сувязі з чым ім аказвалася пастаянная крэдытная падтрымка. Так, з дапамогай крэдытаў банка Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі расшырала выпуск новых мадыфікацый аўтаматычных тэлефонных станцый «Бета», друкаваных плат па заказах экспарцёраў. У сваю чаргу крэдытныя ўліванні ў эканоміку завода «Альмагор» дазволілі пачаць выпуск там каля 2 тысяч чорна-белых тэлевізараў у месяц. Апрача таго, упраўленнем аказана крэдытная падтрымка для асваення выпуску каляровых тэлевізараў шостага пакалення «Вектар», мэблі, абліцованай шпонам каштоўных парод дрэў.

І яшчэ адна немалаважная дэталь: выдача крэдытаў на выплату заработнай платы шэрагу прамысловых прадпрыемстваў дазволіла папярэдзіць сацыяльны выбух, крыху стабілізаваць абстаноўку ў вытворчых калектывах. Менавіта крэдытная падтрымка закрытаму акцыянернаму таварыству «Атлант» у пэўнай ступені дапамагла калектыву захаваць рабочыя месцы і працягваць выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі, у тым ліку і на замежных рынках. Менавіта дзякуючы правільнаму выкарыстанню крэдытаў гэта прадпрыемства змагло пачаць выпуск азонна бясшкодных халадзільнікаў, якія карыстаюцца павышаным попытам у краінах блізкага і далёкага замежжа. А вось акцыянернае таварыства «Амкадор» з дапамогай крэдытаў наладзіла выпуск аўтобусаў.

**— У многіх банках наладжаны даволі ўстойлівыя сувязі з банкамі блізкага і далёкага замежжа. Якія захады ў гэтым напрамку робіць ваша ўпраўленне?**

— Спектр паслуг, што аказвае ўпраўленне нашым кліентам па абслугоўванню знешнеэканамічнай дзейнасці, даволі разнастайны. Гэта як традыцыйныя — крэдытаванне, прыцягненне дэпазітаў і ўкладаў, купля-продаж СКВ і АКВ на Міжбанкаўскай валютнай біржы, міжнародным валютным рынку і праз абменныя пункты, так і нетрадыцыйныя, але такія, якія ўжо сталі неад'емнай часткай банкаўскай дзейнасці — абслугоўванне кліентаў—трымальнікаў пластыкавых картак, работа з чэкамі замежных банкаў, канверсійныя і парытэтныя здзелкі, гарантыйныя аперацыі і інш. Шырокая сетка замежных банкаў-карэспандэнтаў і існуючая ў нас сістэма «Swift» дазволіла ў мінімальныя тэрміны і з найменшымі затратамі ажыццяўляць разлікі кліентаў са сваімі контрагентамі.

І наогул, нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю, упраўленне імкнецца своечасова і аператыўна рэагаваць на тыя змены, што адбываюцца на фінансавым рынку. У залежнасці ад структуры ўласных сродкаў банка і прыцягнутых рэсурсаў змяняецца і крэдытная палітыка ўпраўлення, скіраваная на максімальнае захаванне інтарэсаў акцыянераў і ўкладчыкаў банка, а таксама на ўмацаванне яго пазіцый. Так, напрыклад, сярэдняя працэнтная стаўка па крэдытах летась склала значна менш, чым у іншых камерцыйных банках, і поўнасцю адпавядае прадпісанню Нацыянальнага банка аб вызначэнні працэнтных ставак на аснове кошту для банка крэдытных рэсурсаў з дабаўленнем дапушчальнага памеру маржы.

**— А цяпер вернемся зноў да тых самых крытычных «стрэлаў», якія нярэдка ляцяць у бок банкаў. З аднаго боку, выказваюцца папрокі за быццам бы звышпрыбыткі, а з другога — многія з іх папракаюць у тым, што яны нясуць страты, праядаюць уласны капітал і сродкі ўкладчыкаў...**

— У аснове дзейнасці банка ляжыць прыбытак як абагульняючы паказчык эфектыўнасці работы і галоўная крыніца яго ўмацавання і развіцця. За мінулы год па ўпраўленню атрыманы вызначаны аб'ём прыбытку, забяспечана выплата даходаў акцыянерам і ўкладчыкам банка. Пры гэтым узровень рэнтабельнасці банкаўскай прадукцыі дасягнуў запланаваных рубяжоў. Толькі ў якасці падаткаў ад нашай дзейнасці ў бюджэт пералічана 45 мільярдаў рублёў. Цяпер наконт даходаў акцыянераў па акцыях банка за мінулы год. Кожная акцыя прынесла яе гаспадару 765 рублёў чыстага даходу, чаму акцыянеры большасці мінскіх банкаў могуць толькі пазайздросціць. За год мінімальны кошт акцыі вырас у чатыры разы і дасягнуў 800 рублёў, што дазваляе падтрымліваць яе курсавую вартасць на дастаткова высокім узроўні. Як бачна, ні пра якія звышпрыбыткі не можа быць размовы, як і пра тое, што праядаюцца сродкі. Сёння ў жорсткіх умовах эканамічнага крызісу «Белпрамбудбанк» не толькі не згубіў сваіх капіталаў, але павялічвае даходы і прыбыткі, а акцыянеры і ўкладчыкі атрымліваюць свае дывідэнды. Банк — не толькі каса, з якой бяруць грошы, але найперш — папаўняюць. Толькі пры такой умове ён можа нармальна функцыянаваць, сканцэнтроўваць грашовыя рэсурсы і прымнажаць іх.

Нельга не спыніцца і на такой важнай справе, як дабрачыннасць, якой займаецца «Белпрамбудбанк». Толькі за мінулы год упраўленне накіравала ў якасці дапамогі 773 мільёны рублёў. Найбольш грунтоўная дапамога аказана Мінгарвыканкому, 7-й клінічнай бальніцы, Мінскаму дзіцячаму дому № 3, Свята-Петрапаўлаўскай царкве, Кастрычніцкаму РАУС. Значныя сродкі выдзяляліся для арганізацыі лячэння дзяцей за мяжой, для Асацыяцыі інвалідаў і інш. Упраўленне з'яўляецца спонсарам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.





***НА ЗДЫМКАХ:***
- *начальнік упраўлення АКБ «Белпрамбудбанк» па г. Мінску Вера САЛАВЕЙ;*
- *кліент задаволены: у філіяле ўпраўлення, што на праспекце Скарыны, 39, яго абслугоўваюць хутка і з веданнем справы;*
- *ранішняя нарада кіруючых супрацоўнікаў упраўлення.*



# Як здабываюцца рэсурсы

**Алена БУЛАНКІНА,**
**начальнік аддзела планавання, упраўлення крэдытнымі рэсурсамі, развіцця дзейнасці банка і фінансаў**

СЁННЯ ПА КРЭДЫТЫ ў банкі звяртаюцца многія. Прычым далёка не ўсе ўяўляюць сабе, а што за гэтым стаіць? Каб выдаць крэдыт, трэба найперш мець свабодныя рэсурсы. А дзе іх узяць?

У снежні мінулага года перад «Белпрамбудбанкам», у тым ліку і перад нашым упраўленнем, была пастаўлена адказная задача па выкананню пастановы Прэзідэнта аб пераводзе ў Ашчадны банк «Беларусбанк» рахункаў бюджэтных арганізацый, бюджэтных і небюджэтных фондаў, арганізацый паліўна-энергетычнага комплексу. Згодна з гэтым рашэннем аддзяленнямі гарупраўлення было перададзена 87 кліентаў са 184 мільярдамі рублёў свабодных рэсурсаў. Рэзалі, што называецца, па жывому. Ад нас забралі кліентаў, на рахунках якіх былі свабодныя рэсурсы, якія мы маглі выкарыстоўваць у якасці крэдытаў. Возьмем тую ж Мінскую мытню. Праз яе пракручваліся вялізныя сумы грошай. Забралі ад нас і падатковыя інспекцыі, праз якія таксама праходзілі значныя сумы грошай. Вось і аказаліся тылы агаленымі.

У такой няпростай сітуацыі намаганні ўпраўлення былі скіраваны на папаўненне крыніц рэсурснай базы. Усё рабілася, каб не дапусціць збою ў аб'ёме крэдытных укладанняў. У першую чаргу ўзамен аддадзеных рэсурсаў вырашана было з большай актыўнасцю прыцягваць уклады і дэпазіты фізічных і юрыдычных асоб. Так, калі на 1 студзеня мінулага года сума такіх укладаў складала недзе 3,8 мільярда рублёў, то ўжо на 1 студзеня гэтага года іх аказалася 52,5 мільярда рублёў — рост больш чым у 13 разоў! Гэтаму ў многім садзейнічалі высокія працэнтныя стаўкі па ўкладах і дэпазітах, якія былі вышэйшымі, чым у многіх іншых камерцыйных банках. Так, напрыклад, сёння ў сістэме нашага ўпраўлення на ўклад тэрмінам 1 месяц выплачваюцца больш высокія працэнты, чым у тым жа Ашчадным банку «Беларусбанк». У такой сітуацыі куды панясуць свае грошы ўкладчыкі? Вядома, туды, дзе больш плацяць. Ну а калі, скажам, кліент не з'явіцца праз месяц, каб атрымаць свае працэнты? Тады адбываецца аўтаматычная пралангацыя ўкладу. Кліенту зручна, бо налічаныя працэнты пералічваюцца ва ўклад. Не дзіва, што гэты від паслуг вельмі зручны для ўкладчыка, дазваляе яму аператыўна кіраваць сваімі зберажэннямі і заслужана стаў папулярным сярод мінчан.

Працягваецца расшырэнне сеткі пунктаў прыёму ўкладаў насельніцтва, Так, у верасні 1995 года каля плошчы Перамогі на праспекце Ф. Скарыны, 39 адкрыты сёмы філіял упраўлення. Ён размешчаны ў вельмі зручным месцы, у добра абсталяваных для гэтага памяшканнях, забяспечаны сучаснай аргтэхнікай, мае надзейную ахову. Высокакваліфікаваны персанал філіяла ажыццяўляе прыём укладаў, праводзіць абменныя аперацыі. Спецыялісты працуюць зладжана, з веданнем справы, а таму, як правіла, амаль не бывае чэргаў. Дарэчы, тут дзейнічае спецыяльная служба па абслугоўванню ўкладных аперацый фізічных асоб, што ў сваю чаргу забяспечвае яшчэ большую актывізацыю ў рабоце з валютай менавіта сярод насельніцтва. А гэта таксама спрые станоўчаму іміджу банка.

І яшчэ адна немалаважная дэталь. Прыцягваючы рэсурсы, мы адначасова расшыраем магчымасці крэдытавання вядучых прадпрыемстваў горада. А гэта ва ўмовах жорсткага недахвату ўласных абаротных сродкаў у прамыслоўцаў з'яўляецца ледзь не адзінай магчымасцю для выжывання. Прычым крэдытуем не толькі сталічныя прадпрыемствы. У свой час немала сродкаў упраўленне выдзеліла вытворчаму аб'яднанню «Гомсельмаш», які ўжо не можа абыходзіцца без крэдытных уліванняў. Такім жа чынам аказвалі падтрымку прадпрыемствам Брэстчыны і Віцебшчыны. А што застаецца рабіць, калі сёння — усім цяжка, усе імкнуцца ўтрымацца на плаву.



*НА ЗДЫМКАХ:*

- *кіраўнік сектара міжнародных разлікаў Жана Крыжаноўская і старшы бухгалтар Таіса ЛЯЎДАНСКАЯ;*
- *свайго роду мазгавым цэнтрам з'яўляецца аддзел планавання, упраўлення крэдытнымі рэсурсамі, развіцця дзейнасці банка і фінансаў. Вось і на гэты раз супрацоўнікі аддзела сабраліся, каб абмеркаваць чарговую важную справу;*
- *ні на хвіліну не сціхалі перад 8-м сакавіка лічыльныя машынкі: супрацоўнікі банка імкнуліся да свята выдаць мінчанам заработную плату, пенсіі, стыпендыі і тым самым паспяхова выканаць чарговае распараджэнне Прэзідэнта;*



# Па новых планах

**Галіна ЛЕСАВАЯ,**
**галоўны бухгалтар**

З ПАЧАТКУ ГЭТАГА года на ўсіх плацежных даручэннях і іншых банкаўскіх дакументах з'явіліся трынаццацізначныя лічбы. Змяніўся і сам план рахункаў. Аднак кліенты гэта перанеслі спакойна, бо ўсе работы па пераводу на новы план рахункаў прайшлі спакойна, без зрываў. Ва ўсякім разе, не было звычайнай у такіх выпадках нервознасці, вяртання неаплачаных рахункаў і г. д. А ўсё таму, што яшчэ ў кастрычніку-лістападзе і пазней бухгалтарская служба ўпраўлення, як кажуць, не складаючы рук працавала над тым, каб своечасова перайсці на новы рэжым работы.

Недасведчаны ў банкаўскай справе чалавек можа спытаць: маўляў, а навошта ўсё гэта спатрэбілася? Чаму такая мітусня вакол гэтых самых новых планаў рахункаў? Што гэта дало?

Дык вось, пераход на новы план рахункаў бухгалтарскага ўліку ў банках абумоўлены перш за ўсё патрэбнасцю ў якасна новай інфармацыі для ўрада, Нацыянальнага банка, а таксама кіраўнікоў саміх камерцыйных банкаў. Гэта — з аднаго боку, а з другога — новаўвядзенне выклікана паглыбленнем інтэграцыі ў сусветную гаспадарку. Так працуюць ва ўсім свеце.

У новым плане рахункаў знайшлі адлюстраванне міжнародныя стандарты бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці. Гэтыя стандарты грунтуюцца на міжнародных прынцыпах бухгалтарскага ўліку, такіх як няспыннасць дзейнасці, пастаянства правілаў бухгалтарскага ўліку, асцярожнасць, нарошчванне даходаў і расходаў, асобнае адлюстраванне актываў і пасіваў, пераемнасць уваходнага балансу, адкрытасць і кансалідацыя.

Асноўная задача новага плана рахункаў — даць магчымасць весці падрабязны і поўны ўлік усіх банкаўскіх аперацый, своечасова прадастаўляць дэталёвую, праўдзівую і змястоўную інфармацыю кіраўніцтву банкаў, акцыянерам, дзелавым партнёрам, падатковым, статыстычным і іншым органам.

Немалаважна і тое, што новы план рахункаў поўнасцю адпавядае міжнародным правілам бухгалтарскага ўліку, у прыватнасці, дырэктыве IV Еўрапейскага савета «Аб складанні гадавой справаздачнасці і кансалідаванай справаздачнасці банкаў і іншых фінансавых інстытутаў». У той жа час у ім утрымліваецца шэраг рахункаў, што адлюстроўваюць спецыфіку банкаўскай сістэмы Рэспублікі Беларусь.

Апрача таго, для стварэння новых планаў рахункаў бухгалтарскага ўліку і іх класіфікацыі быў выкарыстаны сусветны вопыт і стандарты, а таксама існуючае ў Рэспубліцы Беларусь заканадаўства. Словам, аб'ём работы выкананы немалы. Але і вынік выдатны.

Перайшоўшы на новы план рахункаў, мы тым самым інтэграваліся ў сусветную банкаўскую сістэму. Менавіта дзякуючы намаганням нашых высокакваліфікаваных спецыялістаў, іх уменню, вопыту, выключнай працавітасці ўпраўлення і ў цэлым «Белпрамбудбанк» строга ў вызначаныя тэрміны змаглі перайсці на новыя планы рахункаў, не стварыўшы для кліентаў тых нязручнасцей і клопатаў, якія звычайна звязаны з новаўвядзеннямі.





- *начальнік інавацыйна-экспертнага аддзела Вера КАСЦЮКЕВІЧ і яе намеснік Аляксандр ЖУКАВЕЦ правяраюць тэхнічную дакументацыю пад будучыя інвестыцыі;*
- *у зале філіяла № 6, што на вуліцы П. Глебкі, 3.*



*Матэрыялы выпуску падрыхтавалі Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).*

**Столькі ўвагі жанчынам (цэлая старонка), хай сабе і на пачатку сакавіка, калі свята мінула некалькі дзён таму, — крыху дзіўна, ці не так? Нібыта ляцім наўздагон таму, мінуламу святу, нібыта спяшаемся сказаць, дагаварыць тое, што не паспелі ў перадсвяточнай мітусні... Напэўна, так яно і ёсць. І так будзе. Увесь год. Да наступнага свята. А пасля яшчэ і яшчэ. Бо жанчыны — гэта, як ні круці, — палова чалавецтва. Прычым палова прыгожая. І добрая. І... Карацей, эпітэтаў можна знайсці шмат. І гэта палова вартая не менш, чым другая, моцная, каб пра яе пісалі, каб ёй прысвячалі... Калі не кнігі, дык хаця б старонку ў газеце. Што мы сёння і робім.**

## СТАРАЖЫТНЫЯ ВЕДАЛІ ТОЛК У ЖАНЧЫНАХ

**Зменлівыя і непастаянныя каноны прыгажосці. Па старажытных еўрапейскіх мерках, эталонам лічылася тая жанчына, якой былі ўласцівы 33 рэчы. Магчыма, у складзены нашымі продкамі спіс унеслі сякія-такія змены вастрасловы. Зрэшты, мяркуйце самі.**

***У жанчыны павінны быць:***

**белымі** — твар, зубы, рукі;
**чырвонымі** — шчокі, пазногці, каралі;
**вузкімі** — далоні, талія, ступні;
**поўнымі** — вусны, клубы, калені;
**тонкімі** — пальцы, бялізна, пачуццё гумару;
**вострымі** — нос, позірк, грудзі;
**лёгкімі** — характар, паходка, футра;
**высокімі** — абцасы, голас, культура;
**вялікімі** — вочы, тэмперамент;
**доўгімі** — валасы, шыя, ногі;
**кароткімі** — язык, спадніца, мінулае.

**Падрыхтаваў Аляксандр МАКАРАЎ.**

З НАГОДЫ

# «ЖАНЧЫНА ГОДА» — ГЭТА ГУЧЫЦЬ ГОДНА

**УСЕБЕЛАРУСКІ ЖАНОЧЫ ФОНД** святой Ефрасінні Полацкай за параўнальна кароткі час свайго існавання паспеў набыць вядомасць у нашай краіне і за яе межамі дабрачыннымі мерапрыемствамі, што праводзіліся пад яго эгідай. Абвешчаны фондам Агульнанародны дзень святой Ефрасінні Полацкай — 5 чэрвеня — упэўнена набывае прыметы нацыянальнай традыцыі. Нядаўна фонд быў прызнаны міжнародным: яго філіі адкрыліся на Украіне, у Польшчы, нават у Канадзе. Сябры фонду на месцах праводзяць акцыі, якія носяць дабрачынна-асветніцкі характар.

Ёсць у жаночага фонду яшчэ адна традыцыя — вызначэнне «Жанчыны года» ў розных галінах грамадскай дзейнасці. Нядаўна «Звязда» друкавала прозвішчы жанчын, што атрымалі гэта ганаровае званне за 1995 год. Як і кім вызначаецца «Жанчына года», што значыць гэта званне, якую ўзнагароду атрымліваюць адзначаныя фондам — аб гэтым наш карэспандэнт распытвае галоўную жанчыну ў жаночым фондзе — яго прэзідэнта, пісьменніцу **Валянціну КОЎТУН**.

**— Валянціна Міхайлаўна, каб быць адзначанай вашым фондам — стаць «Жанчынай года», — кім трэба быць?**

— Трэба быць асобай годнай, высокамаральнай — ва ўсіх сферах жыцця. Таленавітай і руплівай — у той галіне, дзе працуеш. Але гэта толькі першы крытэрый, па якім вызначаецца, ці вартая жанчына нашай адзнакі. Другі крытэрый — і ён найважнейшы — наколькі поўна жанчына аддае свой талент, свае сілы на карысць Беларусі і яе народа.

**— Хто вызначае «Жанчын года»? Напэўна, ёсць нейкае кампетэнтнае журы?**

— Перш за ўсё, гэта ўправа фонду. У яе ўваходзяць вядомыя і паважаныя жанчыны: пісьменніца Святлана Алексіевіч, артыстка Марыя Захарэвіч, кампазітар Галіна Гарэлава... Ва ўправу ўваходзяць таксама педагогі, вучоныя. Але мы працуем не адны: улічваецца меркаванне творчых саюзаў, грамадскіх арганізацый, дзе мы праводзім апытанні. Як правіла, адзначаныя жанчыны маюць высокі рэйтынг сярод апытаных. Але мы хацелі б прыцягнуць да выбару «Жанчын года» як мага больш шырокія колы грамадства. Таму спрабуем супрацоўнічаць са сродкамі масавай інфармацыі. Напрыклад, сумесна з Міністэрствам сацыяльнай абароны і газетай «Рэспубліка» сёлета будзе вызначацца «Жанчына года» ў галіне міласэрнасці. Будуць прыняты пад увагу прапановы чытачоў газеты, дасланыя ў рэдакцыю... Мяркуецца падобным чынам правесці выбар лепшай народнай творцы года — з газетай «Звязда»..

Трэба сказаць, што фонд, вылучаючы на ўзнагароду тую ці іншую жанчыну, як бы ўзнагароджвае і тую арганізацыю, дзе яна працуе. Так, адзначыўшы рэктара універсітэта культуры, мы адзначылі ўсіх выкладчыкаў і студэнтаў, адзначыўшы ігуменню Полацкага манастыра — усіх яго манашак і паслушніц.

**— Дарэчы, пра ўзнагароду. Гэта, напэўна, нейкі памятны знак?**

— Так, кожная жанчына атрымлівае ўзнагароду — медаль святой Ефрасінні Полацкай. Ён зроблены з керамікі або металу і мае выгляд іконы з выявай заступніцы Беларускай зямлі. У адной руцэ яе — крыж, у другой — лілея. Аўтар гэтага памятнага знака — скульптар, сябра нашага фонду Святлана Гарбунова.

**— Звычайна да такой узнагароды дадаецца яшчэ адна — сціплы канверцік, у якім ляжыць пэўная сума...**

— Мы ад такой ідэі адмовіліся. Па-першае, наш фонд — не камерцыйная структура. Калі і з'яўляюцца ў нас на рахунку якія-небудзь сродкі, яны адразу ж пералічваюцца на будаўніцтва царквы ці ў дзіцячы дом. Па-другое, мы лічым, што канверцік з грашыма прынізіў бы значнасць узнагароды. Яна перш за ўсё — духоўная, сімвал ухвалы годнасці чалавечага духу. Таму да медаля не далучаем ніякіх грошай, можна сказаць, прынцыпова. Іншая справа, калі якая-небудзь камерцыйная арганізацыя паралельна з нашай узнагародай уручыць жанчынам прыемныя падарункі. Так, напрыклад, збіраецца зрабіць фірма «Белвест»...

**— Сярод «Жанчын года-95» ёсць адна ўкраінка — паэтэса Ліна Кастэнка... Чаму іменна яна?**

— Наш фонд цяпер міжнародны, і мы не маем намеру выбіраць «Жанчыну года» толькі сярод сваіх зямлячак. Чалавек можа жыць і ў Таронта, але шчыра працаваць дзеля Беларусі... Праўда, пры такой пастаноўцы пытання пошукі і выбар «Жанчын года» ўскладняюцца. Але ў нас добрыя адносіны з творчымі саюзамі, міністэрствамі адукацыі і культуры, пасольствамі. Таму можна спадзявацца, што тытул «Жанчына года» атрымаюць самыя дастойныя.

**Гутарыла Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

**УВАГА: КОНКУРС! На сумесным пасяджэнні ўправы Усебеларускага жаночага фонду Святой Ефрасінні Полацкай і рэдкалегіі газеты «Звязда» прынята рашэнне аб аб'яўленні конкурсу на званне «Жанчына года» ў галіне народнай творчасці (творчыя майстэрні, харавыя калектывы, народныя промыслы і г. д.).**

**Прапановы ад калектываў, устаноў і асоб дасылайце да 1 чэрвеня на адрас рэдакцыі ці фонду.**

НАТХНЕННЕ

# А МУЗЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ...

Дзіўны народ гэтыя паэты. Здавалася б, што прасцей: знайсці нейкі агульны ідэал жанчыны і супернічаць-спаборнічаць, прысвячаючы ёй оды, вершы, паэмы...І ўвесь свет пабачыў бы нарэшце ў гэтай жанчыне эталон жаночага хараства, які шукаюць, напэўна, з тых часоў, як з'явілася яшчэ адна прадстаўніца прыгожай паловы, акрамя праматухны Евы, і не могуць знайсці дагэтуль. Вырашылася б адна з самых значных, глабальных праблем... Дык не! Кожны шукае сваю, адметную музу, якая, на яго думку, толькі адна і можа натхніць на вершы. Хаця нярэдка яны адважваюцца толькі напісаць у прысвячэнні першую літару імя і паставіць ля яе колькі загадкавых «зорачак»...

А музы — яны бываюць розныя. Але ўсе як адна вартыя напісаных пра іх вершаў.

Васіль Вітка ўбачыў сваю музу ў месцы не вельмі вясёлым — у бальнічнай палаце. Мо з гэтай прычыны, ды яшчэ таму, што паэт далёка ўжо не малады, дый натхніцелька яго ў гадах, тут абышлося без загадкавых «зорачак»?.. Цімафей Васільевіч, прапануючы свае вершы для «Звязды», расказаў пра іх гераіню крыху прозай.

Марыя Несцераўна — бальнічная санітарка. Самая старэйшая з усяго персаналу. Але яе маладыя калегі могуць толькі пазайздросціць яе спрыту, лёгкасці, уменню знайсці падыход да кожнага хворага. Жыве Несцераўна (а іменна так завуць яе ў бальніцы) у прыгарадзе, ездзіць на працу на электрычцы. Але дарога ёй не ў цяжар, здаецца, толькі прыехала, а ўжо жвава бяжыць па калідоры, узмахваючы рукамі, нібы збіраючыся ўзляцець... У яе для кожнага хворага знойдзецца цёплае слова, нават для кактуса, што стаіць на акне ў палаце, дзе ляжаў паэт. Яна размаўляла з кветкай, як з дзіцем. А калі вымушана была на некалькі дзён адлучыцца, даручыла Цімафею Васільевічу апекавацца над сваім гадаванцам, даўшы падрабязныя інструкцыі і папярэдзіўшы, што хутка кактус закрасуе (а цвіце ён вельмі рэдка і ўсяго суткі)... Дзень, калі на вазоне з'явіліся чырвоныя кветкі, быў святам для насельнікаў палаты. Але большым дзівам было тое, што акурат у той дзень у палату забегла Несцераўна і задаволена ўздыхнула: «Паспела»...

На жаль, паэт не ведае ні прозвішча Марыі Несцераўны, ні дакладнай назвы бальніцы, дзе яна працуе. Але, думаецца, яе хворыя сваю аберагальніцу пазнаюць... А можа, гэта частковая таямнічасць і дарэчы? Такіх добрых, чулых працаўніц у нас шмат. І ўсе яны вартыя самых найлепшых вершаў.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

***Васіль ВІТКА***

**Два вершы Марыі Несцераўне, бальнічнай санітарцы**

### Несцераўна

*Несцераўна? Якая?*
*А што на крылах лятае,*
*Хаця і мусіць хадзіць па зямлі.*

*Колькі рукі яе паднялі*
*Нямоглых нас з ложка бальнічнага.*
*Будзьце здаровы. Справа прывычная.*

*Пайшоў. І ўспомніць не кожны,*
*Які бываў тут бездапаможны,*
*Нават самому не верыцца.*

*Несцераўна — не адвернецца.*
*Несцераўне — немагчыма.*
*Самае цяжкае — ёй, жанчыне.*

*Усіх на крылы свае ўзяла.*
*Наш боль і ўзрост свой*
*Перамагла.*

*Бывае, спытае хтось у яе:*
*— Каторы гадок вам?*
*— А ўсе, колькі ёсць,— мае.*

### Кактус

*На палатным падваконніку,*
*Побач, дзе стаіць мой ложак,*
*На скупым зімовым сонейку*
*Скурчыўся ў клубочак вожык.*

*Раніцай заходзіць Несцераўна,*
*Зазірнула за край шторы:*
*— Ну, а як мой гэты хворы?*
*Дам папіць, а есці рана.*

*Яе клопат асаблівы*
*Аб зялёным пацыенце.*
*Хоць на строгай ён дыеце,*
*Пад яе рукой — шчаслівы.*

Падымаецца палата,
І святлее тварам кожны.
Пасярод зімы ў нас — свята:
— Гляньце, гляньце — расцвіў вожык!

# ВОДАР ЖАНЧЫНЫ — У МУЖЧЫНСКІХ РУКАХ

***Мілыя жанчыны, колькі слоў кахання і прызнання выслухана вамі, колькі напісана вершаў і паэм, якія ўхваляюць непаўторную вашу прыгажосць, колькі мужчын трапіла ва ўмела расстаўленыя вамі сеткі.***

Жанчына і прыгажосць — паняцці непадзельныя. Аднак прыгажосць — рэч капрызная, гэта каралева, якая правіць вельмі нядоўга. Так, калі ў эпоху Адраджэння ідэал жаночай прыгажосці быў увасоблены ў палотнах Рубенса (бела-ружовы колер скуры, пышнасць і акругласць формаў), то ў XIX стагоддзі ўваходзяць у моду бледны, матавы, амаль безжыццёвы колер скуры, кволае цела, зацягнутае ў карсет, вузкія пакатыя плечы. У другой палове XIX стагоддзя туберкулёз лічыўся ў парыжскіх гасцёўнях хваробай інтэлектуальнай эліты. Самыя заможныя дамы Парыжа пазбягаюць румян, імкнуцца выглядаць беднымі да васковай празрыстасці, а на шыю павязваюць вялікія чорныя банты. Усяго праз некалькі гадоў свет рэзка мяняе ўласную думку: высокапастаўленыя дамы пачынаюць румяніцца.

Да якіх толькі хітрыкаў ні звярталіся жанчыны, каб дабіцца кахання мужчын. Рэзка мянялася мода на прычоскі, прад'яўляліся новыя патрабаванні да касметычных сродкаў, адзення і ўпрыгажэнняў. Але ва ўсе часы цаніліся духі, здольныя падкрэсліць індывідуальнасць і непаўторнасць жанчыны. Як сказаў Жак Польт, парфумер фірмы «Шанэль», «адзенне ўпрыгожвае знешнасць, а духі адлюстроўваюць унутраны свет». Менавіта яны могуць стаць ідэальным падарункам любімай жанчыне, які не позна зрабіць ніколі. Але пры іх выбары не варта забывацца, што духі, якія ўпрыгожваюць адну жанчыну, зусім не «гучаць» у другой. Сёння псіхолагі звязваюць выбар паху з характарам, а зусім не са знешнасцю.

Напрыклад, аптымістычным, вясёлым, здольным рызыкаваць — словам, **прыроджаным лідэрам** (экстравертыўны тып) **рэкамендуецца свежы, цытрусавы ці кветкавы, пах. Калі вы ўнутрана спакойныя і гарманічныя, любіце паразважаць у адзіноце, адхіляеце замах на вашу індывідуальнасць (інтравертыўны тып), вам падыдуць усходнія пахі. Шыпravы, кветкава-мохавы фруктовы водар зробіць непаўторнай жанчыну з моцным характарам, актыўную, гаваркую і энергічную (эмацыянальна стабільны экстравертыўны тып).А альдэгідны, мускатны і ўсходні водар адпавядае жыццярадаснай, лёгкаранімай жанчыне, здольнай прымаць імпульсіўныя рашэнні (эмацыянальна пераменлівы экстравертыўны тып).**

На духі, як і на адзенне, мода мяняецца вельмі хутка. Аднак сярод акіяна пахаў, чыё жыццё вымяраецца месяцамі, асобна стаяць «вечныя імёны». Рэкорд даўгалецця належыць бессмяротнаму водару Shalimar, выпушчанаму фірмай Guerlain у 1921 годзе. І, вядома ж, самы вялікі парфумерны цуд — духі Chanel № 5, створаныя Вялікай Мадэмуазэль у 1925 годзе. І ў 90-х гадах яны займаюць адзін з верхніх радкоў хіт-парада. Калі вы вельмі хочаце падарыць даме сярэдніх гадоў духі, але не ведаеце, што ёй спадабаецца, № 5.— бездакорны выбар (калі, вядома, ваш бюджэт вытрымае гэта выпрабаванне). У такім разе вас ніхто не зможа абвінаваціць у адсутнасці густу ці няведанні модных тэндэнцый.

Так што, дарагія мужчыны, дзейнічайце, жаночая чароўнасць у многім залежыць ад вас!

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## У АРМІІ НЕ ЖАНОЧАЕ АБЛІЧЧА?

**Каля 4 тысяч прадстаўніц слабага полу служаць сёння ў беларускай арміі.**

Сярод жанчын-ваеннаслужачых ёсць не толькі салдаты, сяржанты, прапаршчыкі. Служаць ва Узброеных Сілах рэспублікі і жанчыны-афіцэры. Цяпер іх 35 чалавек. Звання маёра ўдастоены 8 прадстаўніц прыгожай палавіны чалавецтва, капітана — 7, старшага лейтэнанта — 18, лейтэнанта — 1. Ёсць сярод жанчын нават адзін падпалкоўнік.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

***Народны паэт Беларусі Рыгор БАРАДУЛІН чытачам «Звязды»:***

*На 8 Сакавіка*
*Да чары цягнецца рука,*
*На 8 Сакавіка*
*Ірвецца з берагоў рака.*

*На 8 Сакавіка*
*Паэт марцуе ад радка,*
*На 8 Сакавіка*
*Цвярдзее пэндзаль мастака.*

*На 8 Сакавіка*
*Русалка сніць лесавіка,*
*На 8 Сакавіка*
*Жарсць патрабуе ясака.*

*На 8 Сакавіка*
*Прыходзіць закусь да «саўка»,*
*На 8 Сакавіка*
*І хвост падымецца ў ваўка.*

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ... ПАЗЫЧЫЦЬ ГРОШАЙ

**Для гэтага, перш за ўсё, трэба наступіць на горла ўласнаму гонару. У ЗША — ёсць такія звесткі — людзі жывуць у крэдыт, і такое становішча лічыцца нармальным.**

**У нас псіхалогія іншая. Зрэшты, перахапіць «траяк» да палучкі ў дарэформенную эпоху не ўяўляла праблемы. Пазычыць мог сусед, калега па рабоце і нават наглядна знаёмая асоба.**

... Я зрабіў твар лапатай і звярнуўся да чалавека, якога лічыў блізкім.

— Слухай, тэрмінова спатрэбіліся грошы, капеек сорак.

— Што?

— Гэта каб цябе не палохаць. На праезд у маршрутным таксі ў абодва бакі. Столькі капеек каштавала такое задавальненне да жніўеньскай рэвалюцыі. Карацей, пазыч 10 тысяч.

— Так бы і гаварыў адразу. Няма.

— Шкада сарака капеек? Ты ж толькі ўчора зарплату атрымаў.

— Мільён аддаў за студэнта, 200 тысяч заплаціў за кватэру, купіў месячны праязны, пасядзелі ў «Хвілінцы» (забягалаўка ў Магілёве. — В.Л.). Вось і ўсе мае грошы.

Не надта, аднак, раскашэліцца і той, хто пры «бабках». Па-першае, адвучыла інфляцыя: дасі сто — вернецца дзесяць. І хаця рубель — дзе ён у натуры? — цяпер быццам перастаў імкліва абясцэньвацца, інерцыя сваё робіць.

Па-другое, агульнавядомая прымаўка аб тым, што калі хочаш нажыць сабе ворага, пазыч чалавеку грошай, набыла ў нас нечакартоўную адпаведнасць рэальнасці. Гады два назад я ўжо пазычыў невялікую суму, вярнуў па курсу, а калі мой «інвестар» перапічыў торбу «зайцоў», страшэнна пакрыўдзіўся. Маўляў, за ліхвяра прымаеш? Сапраўды маглі пасварыцца.

Да таго ж, хто зараз упэўнены, што пазычальнік своечасова атрымае зарплату і разлічыцца або наогул не застанецца заўтра без работы? Вось людзі і сталі «скупярдзяямі». Без уліку таго, што перавважнай большасці патэнцыяльных крэдытораў ледзь-ледзь самім хапае на пражыццё.

Праблема, тым не менш, не прыватная. Калі на такім адносна стабільным прадпрыемстве, як Магілёўскае аб'яднанне «Хімвалакно», у лік зарплаты можна атрымаць з падсобнай гаспадаркі свінню, дык чалавеку — на штодзённыя дробныя расходы застаецца толькі пазычаць.

У камерцыйных структурах, калі яны не банкруты, пытання няма. Я абяцаў ананімнасць і даведаўся аб прыватнай фірме, якая выдзеліла сваім работнікам па 4,5 мільёна рублёў для ўстаноўкі кватэрных тэлефонаў. Калі можна так сказаць, авансам, які трэба будзе пагасіць на працягу года. На дзяржаўных прадпрыемствах або ў арганізацыях бюджэтнай сферы зрабіць такое — барані Божа: тут жа «прышыюць» разбазарванне грашовых сродкаў.

Раней у магілёўскім друку я сустракаў аб'явы: «Даю взаймы». Вядома, пад працэнты. Калі вельмі трэба, згаджаемся і на такія ўмовы. Але праваахоўныя органы прыкрылі адкрыта ліхвярскія «лавачкі».

Што застаецца? Ага, ламбард. Гэта калі ў вас ёсць каштоўныя рэчы, пажадана нераспакаваныя. А калі яны ўжо былі ва ўжытку, на многае не разлічвайце, а то і наогул могуць не ўзяць. Гэтыя рэчы можна затым выкупіць, аднак па цане ў паўтара раза большай. У столькі ацэньваецца захоўванне.

Куды ж падацца? Калі няма багатай радні і прыбытковага працоўнага калектыву, справа, лічыце, дрэнь. Вось я і думаю, чаму б ліхвяром не стаць дзяржаве ў асобе, скажам, ашчаднага банка? Ці ж не парадокс, што доўгатэрміновы крэдыт на будаўніцтва, напрыклад, дома атрымаць можна, а на ўстаноўку таго ж тэлефона, калі не сабраў грошай, а заплаціць трэба тэрмінова, «капусты» ніхто не дасць нават з «наварам» для сябе?

Або такі варыянт — стварыць касы ўзаемадапамогі па месцы жыхарства, дапусцім, пры ЖЭУ ці райсабесах.

Яшчэ прапановы ёсць?

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# ... ПАСТАВІЦЬ МАШЫНУ НА ЎЛІК У ДАІ

**Клопатная гэтая справа — эксплуатаваць уласны аўтамабіль. Бензін, масла, запчасткі — усё патрабуе расходаў. Але перш чым стаць уладальнікам запаветнага чатырохколавага сябра, часам трэба даволі моцна папацець (і ў прамым, і ў пераносным сэнсе слова). Бо для таго, каб права ўласнасці набыло законную сілу, спярша трэба пабываць у ДАІ.**

Аддзяленне рэгістрацыі аўтамотатранспарту, што па вул. Сярова, 1, у дзень нашага візіту (знаёмы пераафармляў «Жыгулі» на новага ўладальніка) нагадвала ўстрывожаны мурашнік. Нехта з пенай ля рота даказваў інспектару, што яго дакументы ў парадку, нехта запаўняў нейкія бланкі, а нехта расселена шукаў даўно прайшоўшую чаргу. Між тым, скрозь натоўп прабіваліся новыя кліенты ДАІ, якімі рухала адно жаданне: як мага хутчэй паконьчыць з гэтай працэдурай.

Праз некалькі хвілін у зале чакання пачалося сапраўднае вавілонскае стоўпатварэнне: чароўная смуглянка па імені Наташа прыемным голасам папярэдзіла грамадзян, што расцэнкі на паслугі дзяржаўтаінспекцыі памяняліся ў бок змяншэння. І, трэба сказаць, «пахудзенне» ўстаноўленых расцэнак было вельмі істотнае. Мяркуйце самі.

Пасведчанне аб рэгістрацыі транспартнага сродку (тэхпашпарт) стала каштаваць толькі 180 тыс. рублёў супраць ранейшых 250 тысяч. Больш сціплым у грашовым эквіваленце стаў і дублікат тэхпашпарта — 245 тысяч замест 350.

Выпіска і выдача вадзіцельскага пасведчання новага (міжнароднага) узору разам з талонам папярэджанняў пацягнула 150 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы, а старога — толькі 25 працэнтаў. Для тых, хто аддае перавагу рэальным лічбам, можна ўдакладніць: гэта адпаведна 150 і 25 тысяч казначэйскіх білетаў Рэспублікі Беларусь.

Паколькі і «правы», і тэхпашпарт у мяне і майго знаёмага даўно ёсць, нас больш за ўсё зацікавіў слупок лічбаў з расцэнкамі на іншыя паслугі ДАІ. Высветлілася, што з 14 лютага звычайныя нумарныя знакі каштуюць ужо 170 тыс. (стары тарыф — 250 тыс.), а святлоадбівальныя — 300 тыс. (замест ранейшых 450 тыс.) Са 150 да 100 тысяч зменшыўся памер платы за «нумары» для матацыклаў і прычэпаў. А транзітныя «кардонкі» са 100 тысяч упалі да 70 тысяч.

Характэрна, што замена нумарнога знака не абавязкова павінна суправаджацца выпіскай новага тэхпашпарта — па жаданню ўладальніка запіс аб гэтым робіцца ў старым дакуменце. І яшчэ адна прыемная навіна, якую я з сябрам пачуў, стоячы ў чарзе на перарэгістрацыю: вадзіцелі, якія страцілі нумарны знак, будуць плаціць у дзяржаўную казну 255 тысяч рублёў замест ранейшых 375 тысяч.

Што датычыцца аўтамабіля, дык мы яго пераафармілі па ўсіх правілах без асаблівага клопату. На ўсё пайшло крыху больш за паўтары гадзіны. Самымі хуткімі этапамі было атрыманне квітанцый, аплата ў ашчадкасу (яна знаходзіцца тут жа, у адным пад'ездзе — бегаць нікуды не трэба), а таксама зверка нумароў рухавіка і кузава на пляцоўцы агляду. Затрымка была толькі з чаргой на атрыманне тэхпашпарта. Аднак нудная не назавеш: напярэдадні 8 Сакавіка дамы ў ёй усміхаліся асабліва міла...

**Аляксандр ТРАХАЧОЎ.**

## КАНІКУЛЫ БУДУЦЬ ВЕЧНЫМІ, КАЛІ ЗАВОД НЕ ЗНОЙДЗЕ ГРОШАЙ

**У чарговы раз працаўнікі Рэчыцкага суднабудаўніча-суднарамонтнага завода накіраваны ў вымушаны адпачынак.**

Чакалася, што на сустрэчы 5—8 сакавіка ў Санкт-Пецярбургу беларускага і галандскага бакоў будуць дасягнуты дамоўленасці па вывадзе прадпрыемства з крызісу. Аднак пакуль замежных бізнесменаў не прываблілі прапановы завода. (Напрыклад, прадпрыемства выканала заказ галандскай фірмы на будаўніцтва вялікагрузнага судна.) У выніку каля трохсот чалавек, прыйшоўшы на працоўнае месца ў панядзелак, 11 сакавіка, да працы так і не прыступілі. Папярэдне мяркуецца, што завод прастаіць яшчэ тыдзень, аднак гарантый, што гэты тэрмін канчатковы, ніхто не дасць. Магчымае выйсце з крызіснага стану — падтрымка банкаў. Кіраўніцтва завода зараз прапрацоўвае такі варыянт выратавання.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*АДВАРОТНЫ БОК МЕДАЛЯ*

# ПРА «БАМЖА» КОЛЬКУ

**У нас дом 12-павярховы. На апошнім паверсе кватэр няма — проста пляцоўка і нешта накшталт каморы. Невялікі пакойчык такі. Там у нас нядаўна пасяліўся «бомж» Колька.**

1.

«Жытло» прыведзена ў парадак. Пасцелены газеты і кардонкі. Стаіць посуд для вады. Я сказаў бы, усё даволі прыстойна. Не хапае толькі сямейнага фота на сцэны: тата, мама і сын Коля. Але і сям'і няма. Некалі была, а потым знікла. Затое з'явіўся «бомж» Колька па мянушцы Фікса. Таму што ў даволі апусцелым Кольковым роце ёсць толькі два пярэдніх зубы. На адным з іх — каронка з напылам. «Глядзі ты, — падумалі некалі уркі, — фраер, а форс цісне». І далі такую мянушку. У тым свеце, дзе верцяцца Колька, яна яму замяняе прозвішча.

Бацькі Колькі былі абодва з дзіцячага дома. Працавалі геолагамі, ездзілі штогод «у поле». Аднойчы паехалі і не прыехалі. «Вертаўлёт, разумееш, навярнуўся...», — тлумачыць Колька. Прыгожая, канешне, легенда. Але не да канца прадуманая. Калі абодва бацькі па паўгода не бывалі дома, то з кім заставаўся Колька? Я мякка ўказваю на недакладнасць. Колька смяецца: «Чорт! Каму ні расказваю — усе верацы! Трэба бабульку прыдумаць». Давай, Колька, прыдумай...

Мы з ім сутыкнуліся выпадкова. Разгаварыліся. Колька быў круты «пад газам», таму — шчырым. Тым больш, я яму паказаў пасведчанне. Ён адразу супакоіўся: «Вашы не «закладваюць». Прыемна чуць.

Гэтае «жытло» ў Колькі за зіму ці не дзесятае. Прыходзіцца часта мяняць «дыслакацыю». Не паспееш абжыцца, як жыхары ўжо «сігналізуюць». Трэба сказаць, міліцыя рэагуе даволі вяла. Ну што з ім, Колькам, рабіць? У прыёмнік? Забіты пад завязку. «Сшыць» справу ды на «зону» адправіць? Тут і сапраўдных бандытаў саджаць няма куды... Так што гуляй, Колька...

2.

Упершыню з гэтым «кантынгентам» я пазнаёміўся на Поўначы. Суровы паўночны край багаты на лясы, рэкі, грыбы, ягады і калоніі рознага рэжыму. Едзеш па Паўночнай магістралі: «зона» — злева, «зона» — справа. Ёсць яшчэ сталінскія, ужо развалены. А хапае і новых. Што-што, а гэта ў нас будуюць хутка і многа.

Многія з вызваленых застаюцца тут: няма куды ехаць. Чакаюць новага тэрміну, бо турма — гэта ўжо іх лад жыцця. Між «пасадкамі» бічуюць. Увогуле, відаць, не ўсе ведаюць, што гэта абрэвіятура: былы інтэлігентны чалавек.

На Поўначы мы жылі на апошнім, пятым паверсе. Якраз над дзвярыма быў люк на гарышча. Там яны і «кантаваліся». Прычым, калі з'яўляліся і зніклі — ніхто не бачыў. Што табе тыя ніндзя... Калі Кольку разоў справаваў падсцерагчы — дзе там. Але паводзілі сябе, я сказаў бы, культурна. Ні табе смецця, ні крыку. Сапраўды, інтэлігентныя людзі. Мне б такіх суседзяў...

Колька таксама бываў у тых мясцах. Вырашыў паглядзець. Не спадабалася. Вядома, кажа, прыгожа і ўсё такое, але занадта многа «бобікаў». Так Колька называе работнікаў міліцыі. Колька быў там на лесапавале. З п'яных вачэй заверабаваўся, потым не раз шкадаваў. Пасяліўся ў інтэрнат, а там такія кадры, Божа мой... Калі Кольку паспрабавалі зарэзаць звычайным відэльцам, на другі дзень ён з Поўначы ўцёк. Там і пашпарт кінуў, адабраны аргнаборшчыкам...

3.

Сапраўдная Колькава гісторыя, вядома, не такая рамантычная. «Ат, — сказаў, — якая розніца... Слухай».

Тата з мамай былі «гандлёвымі работнікамі». Тата «браў» занадта многа, «не па чыну». Тэрмін яму далі вялікі, і мама вырашыла, што чакаць карміцеля сэнсу няма. З'явіўся сужыцель. Пра Кольку забыліся. Неяк дапакутаваў дзесяцігодку. Пайшоў грузчыкам на базу будматэрыялаў, тут мама пастаралася. Неўзабаве памерла бабуля, сваю адпакаўкаўку адпісала любімаму ўнуку. І Колька зажыў. Даклядней, загуляў...

У такім выпадку, як вы разумееце, «пасадка» — пытанне часу.

Часы былі «застойныя», і на базе кралі ўсе, хто мог. Вырашыў паспрабаваць і Колька. Быў, кажа, на добрым падпітку і перакінуў праз плот рулон лінолеуму. Абняў яго і стаў чакаць аўтобуса на прыпынку. Тут міліцыя. «Дзе ўзяў?» — «Купіў на Чэрвеньскім рынку, гад буду!» «Ну-ну», — сказалі міліцыянеры і агледзелі рулон. — Ну, а на ім — вялікі штамп: такая і такая база. А база — за два крокі ад прыпынку...

Але Кольку пашанцавала: рулон аказаўся не той даўжыні, якая павінна была быць у заводскага рулона. «Ну, — сказаў следчы, — твае шчасце. Пакуль».

Неўзабаве шчасце скончылася. «Грузілі аднаму казлу, папрасіў, гад, укінуць фінскі унітаз і зноў той жа лінолеум. А нам што? Укінулі, забралі «паддачу» і пайшлі перакурыць. А тую машыну ДАІ спыніла... Што бязвеш? Пачалі разбірацца і гэты гад кажа, што я сам укінуў лішняе... З базы папёрлі. І добра што дырэктар на мяне ўсю нястачу не спісаў. Ну, далей нецікава. Тры з паловай адседзеў, кватэру адабралі, з тае пары бічую...»

Звычайная гісторыя, звычайны Колька. Я такіх гісторый чуў сотні. Усе яны з аднолькавым канцом...

4.

Прамышляе Колька вядомымі спосабамі. Іншы раз удаецца назбіраць бутэлек. Бывае, пашанцуе на макулатуру, але рэдка. Бывае, сцягне што на рынку. Наймаецца дапамагаць гандлярам, носіць скрынкі і інш. Плацяць, канешне, не надта, але на ежу хапае. Абыходзіцца і боханам хлеба.

У Колькі — нейкая старая хвароба, прыхопіць — і ён ляжыць дзе-небудзь некалькі дзён, не маючы сіл. Прыходзіцца галадаць. Але хвароба адпускае, і Колька зноў увесь у пошуку хлеба надзённага. Ён даўно ўжо ўсвядоміў, што ніхто яго проста так не корміць...

Летам Кольку прывалила шчасце. На Камароўцы яго выглядзеў адзін «круты». Зрабіў дзелавую прапанову: глыбока капаць, далёка кідаць. Адзін куб — адзін долар. Колька працаваў дзесяць дзён, за дзень зарабляў па 10—12 долараў і харчаванне. Як гаворыцца, «масць пайшла» — Колька нечакана разбагацеў. На той момант, магчыма, быў самым багатым «бічом» горада Мінска. Долараў, праўда, хапіла толькі на тыдзень. Потым крывая жыцця зноў пайшла ўніз.

Зараз Кольку цяжкавата. Людзі, кажа, сталі нейкія злыя. «Восем з дзесяці падпішуць мне смяротны прыгавор, і рука не здрыганецца... А мне іх шкада. Іх напужалі, дурных, яны калёсната рыбу баяцца... Я табе скажу, чалавека напужаць — раз плюнуць. Потым рабі з ім што хочаш. Пакажуць на мяне — ён вінаваты, ешце яго — жывым з'ядуць...»

Дрэнна стала з начлегам. Мінулыя зімы ўдавалася перасядзець у «бамжатніку» — прыёмніку-размеркавальніку. Вадзілі на работу, кармілі, жыць можна. Цяпер у прыёмнік не надта трапіш, жадаючых хапае.

Усё часцей падае сігналы хвароба. Ад сілы Колька адводзіць сабе гады са два. І ўсё, «адкіне Колька капыты, калі раней не прыб'юць». Хоць да смерці ён ставіцца спакойна. Іншы раз думае: а і хутчэй бы прыбрала. Аднойчы яго білі «малалеткі». Спачатку неяк адбіваўся. Потым упаў і ў галаве мільгнула: няхай бы прыканчылі. Яно б так і было — «малалеткі» зараз пайшлі ўкормленыя, стомленыя ад бяздзейнасці — ды пад'ехала патрульная машына. Кольку пераначаваў у міліцыі, яго нават перавязалі, а на развітанне дзяжурны сказаў: «Твае шчасце, бічара... Ідзі».

Шчаслівы, значыць, Колька чалавек: не забілі, не замерз, не памёр ад голаду, не дабіла яшчэ хвароба.

А хацелася б Кольку жыцця нармальнага? «Не, — цвёрда адказвае ён. — Што значыць — нармальнае жыццё? Якое яно, к чорту, нармальнае? Дзе ты яго бачыш? Я за вамі, нармальнымі, з боку назіраю... Не-не, не трэба мне гэткага... Няхай я дрэнны, але — свабодны. Мяне тут нічога не трымае. Памру — чуды і дарога... Жыву — значыць жыву...»

Нават зайздросна. Прывабная філасофія. Калі падумаць, то Колька Фікса — неабходны працэнт браку пры ўзнаўленні чалавечага суграмадства. Ну, вось робяць гайкі, нейкі абавязковы працэнт будзе бракам — большым ці меншым. Праўда, Колька не гайка. Але аб гэтым неяк забываюць, калі саджаюць яго ў прыёмнік, не прапісваюць, як бы не заўважаюць. Ну, няма такога, не праходзіць па спісах, не лічыцца, не стаіць на ўліку.

Бракаваныя гайкі ідуць на пераплаўку. Потым з металу робяць новыя гайкі. А вось што рабіць з Колькам? Ён, канешне, біч, але пры гэтым — жывая істота, вельмі падобная на нас з вамі.

Што, не хочацца пагледзець на Кольку? Не хочацца яго заўважаць? А чаму?

Таму што баіцца сябе паставіць на яго месца? А вы не баіцеся. Гэта яшчэ продкі заўважалі: ад торбы ды турмы... Працяг кожны ведае?

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

**Сяргей КАЛЯКІН:**

# «Беларуска-расійскі саюз павінен грунтавацца на балансе ўзаемных інтарэсаў дзяржаў і быць асвячоны воляй яе народаў»



*З лідэрам Партыі камуністаў Беларусі, старшынёй фракцыі ПКБ у парламенце рэспублікі Сяргеем КАЛЯКІНЫМ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ*

**— Сяргей Іванавіч! Нядаўні візіт у Маскву Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі паказаў, што інтэграцыйныя працэсы паміж нашай рэспублікай і Расіяй сапраўды адбываюцца. Прычым настолькі інтэнсіўна, што кіраўнікі абедзвюх дзяржаў усур'ёз задумаліся над магчымасцю стварэння наддзяржаўных кіруючых структур. Што вы ўкладваеце ў паняцце «беларуска-расійская інтэграцыя»?**

— Лепш скажу, чаго я ў яго не ўкладваю. Перш за ўсё гэта не ўваходжанне Беларусі ў састаў Расійскай Федэрацыі, як гэтага хацеў бы, напрыклад, спадар Жырыноўскі. Гэта не аднаўленне Савецкага Саюза, тым больш той мадэлі, якая існавала на працягу 80-х гадоў.

Для беларуска-расійскай садружнасці многае можна было б узяць за аснову з падпісанага ў 1922 года саюзнага дагавора.

Беларуска-расійскі саюз павінен абавязкова грунтавацца на балансе ўзаемных інтарэсаў дзяржаў і быць асвячоны воляй іх народаў. Лічу, што пасля таго, як саюзны дагавор пройдзе ратыфікацыю ў парламентах абедзвюх краін, яго неабходна вынесці на ўсенародны рэферэндум як у Беларусі, так і ў Расіі. Толькі пасля гэтага магчыма рэальнае аб'яднанне дзвюх краін.

У апошні час мусіруюцца думкі на тэму аб нібыта існуючай пагрозе ўшчамлення суверэнітэту Беларусі ў выпадку аб'яднання з Расіяй. Такой пагрозы не будзе, калі ў саюзны дагавор залажыць аднабаковае права вета на прыняцце любога рашэння любой з мяркуемых да стварэння наддзяржаўных кіруючых структур. На практыцы гэта будзе азначаць, што калі, напрыклад, Беларусь не пагодзіцца з якім-небудзь рашэннем саюзнага ведамства, яно не будзе рэалізоўвацца.

Саюзныя ведамствы неабавязкова ствараць усе адразу, адначасова. Фарміраваць ці скасоўваць іх можна паступова, па меры неабходнасці.

Для трывалага саюза Беларусі і Расіі зусім неабавязкова мець агульны ці наддзяржаўны ўрад і адзіны парламент. Дарэчы, у існаванні адзінага вышэйшага заканадаўчага органа, сфарміраванага па прынцыпу адзін дэпутат ад пэўнай колькасці выбаршчыкаў, Беларусь, адназначна, не зацікаўлена. Бо ў гэтым выпадку колькасць расійскіх дэпутатаў будзе непараўнальна большая, чым беларускіх.

У сваю чаргу на стварэнне двухпалатнага з роўнымі правамі аб'яднанага парламента наўрад ці згодзіцца Расія.

Што датычыць урада, то сумняваюся ў мэтазгоднасці стварэння, напрыклад, агульнага Міністэрства культуры. Не трэба і аб'яднанага Міністэрства эканомікі. Разам з тым, магчыма, мае сэнс мець аб'яднанае камандаванне Узброенымі Сіламі ці сумесную армейскую групоўку пад аб'яднаным камандаваннем. На мой погляд, трэба разам ахоўваць заходнія рубяжы Беларусі. Паколькі граніцы паміж Беларуссю і Расіяй не існуе, ва ўмацаванні рубяжоў Беларусі з Польшчай, Латвіяй і Літвой зацікаўлена Расія.

**— Як вы лічыце, ці правільна зрабілі кіраўнікі абедзвюх дзяржаў, пачаўшы інтэграцыю з заключэння Мытнага саюза, ход рэалізацыі якога, па ўзаемнаму прызнанню прэзідэнтаў, не задавальняе ні адзін з бакоў? Ці існуе небяспека дыскрэдытацыі самой ідэі аб'яднання Беларусі і Расіі на прыкладзе асобных няўдач у стварэнні адзінай мытнай прасторы?**

— Не, не існуе. Пры распрацоўцы канцэпцыі мытнага саюза дэталёва не былі ўлічаны некаторыя асаблівасці як нашай рэспублікі, так і Расіі. Падпісанне дагавора аб стварэнні мытнага саюза з'явілася ў значнай ступені палітычным крокам, калі, бадай, упершыню за многія гады, намеры кіраўнікоў не разышліся з канкрэтнымі дзеяннямі. «Прабуксоўкі» шэрага палажэнняў мытнага саюза адбыліся ў многім з-за адсутнасці аператыўнай карэкціроўкі іх рэалізацыі. Абодва бакі ўзаемна парушылі дагавор, пры гэтым да апошняй сустрэчы ў вярхах практычна не абмяркоўваючы ўзнікаючых праблем на міждзяржаўным узроўні.

Але ўсё гэта зусім не азначае, што па гэтай прычыне трэба адмовіцца ад самой ідэі мытнага саюза! Наадварот, трэба дадатковымі пратаколамі і пагадненнямі адрэгуляваць механізм яго эфектыўнага функцыянавання. Наколькі мне вядома, і Беларусь, і Расія гатовы гэта зрабіць.

Неабходна ўлічыць вопыт першага этапа і ўжо пры выпрацоўцы схемы работы гандлёвага, плацежнага і іншых магчымых двухбаковых саюзаў прадугледжваць сістэму аператыўнага ўзгаднення дзеянняў. Выкананне карэкціруючых функцый можна ўскласці на наддзяржаўныя інстытуты, якія маглі б аналізаваць ўзнікаючую сітуацыю і ўносіць адпаведныя прапановы ва ўрады абедзвюх краін. Магчыма, па меры ўмацавання беларуска-расійскага саюза, абодва бакі надзеляць наддзяржаўныя структуры пэўнымі ўладнымі паўнамоцтвамі для аператыўнага кіравання працэсамі ў рамках заключаных дагавораў у галіне эканомікі.

**— Згодна з некаторымі прагнозамі, на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах у Расіі мае шанцы перамагчы кіраўнік кампартыі Г. Зюганаў. На ваш погляд, як можа адбіцца на ходзе інтэграцыйных працэсаў прыход да ўлады ў Расіі камуніста?**

— Перамога камуністаў у Расіі даволі рэальная. Усё больш людзей давяраюць КПРФ. Гэта ў сваю чаргу дае дадатковыя шанцы Партыі камуністаў Беларусі дабіцца пэўных палітычных поспехаў.

Калі Г. Зюганаў і стане прэзідэнтам Расіі, то адразу адчувальных вынікаў у Беларусі, думаю, не адбудзецца. Каардынальна гэта не зменіць сітуацыю. Аднак, зусім відавочна, што ў гэтым выпадку эканамічная і палітычная інтэграцыя Беларусі і Расіі набывае новую якасць.

У абедзвюх краінах левыя з'яўляюцца адзінымі сіламі, якія ў сваіх афіцыйных палітычных праграмах ставяць задачу яднання Беларусі і Расіі на ўзаемавыгаднай аснове. Таму, прыход да ўлады камуністычных сіл створыць спрыяльную аснову для паглыблення інтэграцыі.

Разам з тым, не адмаўляю магчымасці развіцця інтэграцыйных працэсаў і пры наяўнасці розных па палітычных поглядах кіруючых рэжымаў. Але ў гэтым выпадку гэты працэс будзе працякаць не так хутка.

Цяпер Беларусь і Расія разам рухаюцца па шляху рынкачных пераўтварэнняў. Толькі з рознай хуткасцю. Ідучы на саюз з Расіяй, Беларусі прыйдзецца ў многім даганяць усходнюю суседку.

Перакананы, што шырокамаштабны палітычны саюз дзвюх краін магчымы толькі пры ўмове кіравання як у Беларусі, так і ў Расіі прыкладна аднолькавых па палітычнай арыентацыі сіл. Зрэшты, нават гэта не з'яўляецца гарантам стварэння ў сціслыя тэрміны магутнай беларускарасійскай супольнасці. Для дасягнення гэтай мэты неабходна як мінімум фарміраванне спрыяльнага клімату ў заканадаўствах.

Законы Беларусі і Расіі маюць многа істотных адрозненняў. Таму уніфікацыя заканадаўства ў гэтым выпадку прадугледжвае або прыняцце адным з бакоў правілаў гульні другога боку, або абедзве дзяржавы павінны будуць выпрацаваць усярэднены варыянт саюзнага заканадаўства.

Уніфікацыя заканадаўстваў для стварэння моцнага саюза проста неабходна. Законы абавязкова павінны быць хоць бы падобнымі. Дарэчы, гэта пацвярджае і вопыт у галіне інтэграцыі дзяржаў Заходняй Еўропы.

**— Не ўсе ініцыятывы прадстаўнікоў левых палітычных сіл знаходзяць падтрымку і ў парламенце Беларусі, дзе левыя маюць дзве магутныя фракцыі. Палітычныя погляды ПКБ і Аграрнай партыі вельмі падобныя. Гэта шматукладнасць эканомікі, сацыяльная справядлівасць і г.д. Ці магчыма аб'яднанне дзвюх партый у адну?**

— Сапраўды, камуністы і аграрыі маюць падобныя пазіцыі па многіх пытаннях. Але існуе і нямала адрозненняў, якія ў апошні час становяцца ўсё больш відавочнымі. У прыватнасці, аграрная фракцыя ў парламенце схіляецца да ідэі ўвядзення прыватнай уласнасці на зямлю, чаго не адабраюць члены ПКБ. Не хацелася б пакрыўдзіць маіх сяброў - аграрыяў, але вопыт Расіі і Украіны паказаў бесперспектыўнасць аграрных партый. Любая партыя павінна базіравацца на якой-небудзь канкрэтнай ідэалогіі. У Аграрнай партыі ідэалогіі няма. Прыярытэт развіццю аграрнага сектара эканомікі не можа з'яўляцца ідэалогіяй. Аграрыі спрабуюць рэалізаваць ідэі сацыялістычнага грамадства з відавочнай перавагай інтарэсаў сялян. Але сяляне — толькі частка грамадства! Не могуць быць рэалізаваны інтарэсы сялян асобна ад інтарэсаў рабочых.

Калі аграрыі хочуць мець сапраўдную партыю, то ў яе павінна быць якое-небудзь істотнае адрозненне ад камуністаў, сацыял-дэмакратаў і іншых партый, «іскрынка», якую яны будуць прапаноўваць на рынку ідэй.

Бытуе думка, што на прайшоўшых у Беларусі парламенцкіх выбарах перамаглі левыя. Гэта не так. Цяпер левыя сілы не пераважаюць у парламентах ні Расіі, ні Беларусі. Максімум 40 працэнтаў беларускіх дэпутатаў можна аднесці да прыхільнікаў левых — аграрыяў і камуністаў. Але 40 працэнтаў мала для прыняцця Вярхоўным Саветам звычайнага рашэння і тым больш недастаткова, каб гэта рашэнне мела статус канстытуцыйнага закона. Прыкладна такая ж сітуацыя і ў Расіі, дзе ў Дзяржаўнай думе левымі лічацца толькі 45 працэнтаў дэпутатаў корпуса. Таму ні аб якой перамозе левых на выбарах у Беларусі і Расіі не можа быць і размовы. Можна толькі канстатаваць рост іх палітычнага ўплыву.

**— Як вы лічыце, ці зменіцца з цягам часу палітычная расстаноўка сіл у Вярхоўным Савеце? Магчыма, што незалежныя дэпутаты, якіх даволі многа ў парламенце, далучацца да розных фракцый, у тым ліку і да левых?**

— Наогул, больш-менш ясны расклад сіл у вышэйшым заканадаўчым органе краіны стане вядомы толькі к канцу года, калі будзе разгледжана некалькі прынцыповых пытанняў, якія датычаць лёсу Беларусі. Толькі тады рэальна вызначыцца палітычнае аблічча цяперашняга дэпутацкага корпуса.

Перакананы, што левыя сілы ў любым выпадку не страцяць магымасці блакіраваць неканструктыўныя канстытуцыйныя ініцыятывы правых. Некаторыя змены у колькасці фракцый адбудуцца, але не думаю, што значныя.

Упэўнены таксама, што ў цэлым Вярхоўны Савет будзе стаяць на варце Канстытуцыі і законнасці. Гэта цяпер аб'ядноўвае ўсе без выключэння палітычныя сілы ў парламенце. У гэтым — сіла Вярхоўнага Савета, і яе ён не страціць.

# «ДУША ДЖАХАРА НАГАДВАЕ БУНТАРСКУЮ ДУШУ АВАДНЯ»

***МАЯ СУРАЗМОЎЦА — Ала Дудаева. Ала Фёдараўна — расіянка па паходжанню, дачка кадравага афіцэра Савецкай Арміі. Мастачка і паэтэса. Вершы былі пры ёй — у памяці; карціны ўсе да адной згарэлі ў раструшчаным Грозным. Сімпатычная маладая жанчына, зусім не падобная на бабулю трох унукаў, захопленая, як гімназістка, наіўная ў палітыцы, шчырая ў веры, у лірычных адступленнях ад асноўнай тэмы можа безупынна гаварыць пра музеі і мастацтва, усходнія рэлігіі і паэзію. Пазбаўленая ўсяго гэтага, яна ніводным словам у нашай размове не папракнула лёс: адчуўшы сябе часцінкаю чачэнскага народа, расіянка Ала, як і ўсе знаёмыя мне чачэнкі, вельмі стрыманая ў горы. Часу ў нас няшмат, і я мушу перапыняць аповяд мастачкі Алы, каб пагаварыць з жонкай Джахара Дудаева.***

**— Ваша дачка распавяла мне, што вы марылі пра рамантычнага героя і знайшлі яго ў чалавеку. А якім вам уяўляўся рамантычны герой?**

— Гадоў з трынаццаці маім любімым героем быў Авадзень. Я прачытала «Аваднявў шостым класе, і перада мной адкрыўся зусім іншы свет. Мяне так уразіла тонкая і разам з тым моцная натура галоўнага героя, што я ўяўляла яго жывым чалавекам, сваім суайчыннікам. Авадзень — інтэлігент, а інтэлігенты, як правіла, людзі слабыя. А ён, памятаеце, такі мужны, так сапраўды па-мужчынску ўмее перамагчы сваю слабасць. Ведаеце, я нават не ўяўляла сабе, што магу сустрэць у рэальным жыцці чалавека-мару. Але мне пашчасціла.

**— Дарэчы, а як вы пазнаёміліся са сваім «Аваднём»?**

— У вайсковым гарадку ў Калужскай вобласці. Джахар быў тады старшым лейтэнантам, скончыўшы незадоўга перад гэтым лётную школу. Мой бацька таксама там служыў. Я вучылася ў Смаленску і прыехала да бацькоў на канікулы. З Джахарам пазнаёмілася зусім выпадкова. Сябравалі тры гады, потым пажаніліся. Вось і ўсё.

**— І вы адразу зразумелі, што перад вамі — рамантычны герой?**

— Малады лейтэнант быў вельмі шляхетны, разумны, сімпатычны, з цёмнымі выразнымі вачыма: на пачатак гэтага было досыць. Пазней, калі я зазірнула не ў вочы, а ў ягоную душу, мяне ўразіў адчай бязвіннага чалавека, якога разам з усім народам абвінавацілі ў здрадзе. Гэтая душа нагадала мне бунтарскую душу Аваднятая душа нагадала мне бунтарскую душу Авадня. Ён таксама быў у выгнанні і ў адчаі ад таго, што яго залічылі ў здраднікі. Але тут назвалі нягоднікамі цэлы народ. Я зразумела, што мэта майго жыцця — давесці процілеглае і паўстаць супраць несправядлівасці.

**— Вы праз душу каханага чалавека зразумелі ягоны народ. Але ці не адчувалі вы з вашай славянскай ментальнасцю сябе чужародным целам сярод чачэнцаў?**

— Звычаі любога народа ўспрымаюць негатыўна толькі невукі. Разумны добразычлівы чалавек, прыгледзеўшыся і здолеўшы зразумець, на чым грунтуюцца гэтыя звычаі, заўжды знойдзе ў іх хоць і нязвыклае для яго, але пазітыўнае. Тыя традыцыі чачэнскага народа, з якімі я сутыкнулася, стаўшы жонкаю Джахара, пераканалі мяне ў тым, што характар нацыі вырас з пасеянага калісьці добрага зернетка. Там існуе такая моцная повязь паміж пакаленнямі, такая моцная генетычная памяць, што мінулае народа можна спасцігнуць праз сучаснасць. Напрыклад, чачэнскія звычаі з дзяцінства выхоўваюць у чалавека самаадрачэнне. Працяглыя войны зрабілі іх прыроджанымі воінамі. У гарах даводзілася зносіць шмат нягод, там было мала ежы. Вось чаму чачэнец, калі ён лічыць сябе сапраўдным мужчынам, ніколі не пакажа, што галодны. Нават жонцы. Ён проста чакае, калі яго паклічуць да стала. Калі чачэнцы заходзяць у хату, яны вітаюцца словамі: «Будзь вольным!» Такое прывітанне зноў-такі паходзіць ад часу частых войнаў і мараў пра свабоду. Мужчына абавязкова здымае са сваіх рук дзіця, калі заходзіць госць. Ён ніколі не будзе дэманстраваць на людзях пяшчоту да жонкі: чачэнец — традыцыйны воін і гатовы дзеля свабоды народа адрачыся ад сям'і. Гэта вельмі важна зразумець людзям іншай нацыянальнасці: чачэнцы не гуляюць у высокае, для іх сапраўды свабода — найкаштоўнейшая на гэтым свеце рэч. За яе яны гатовы заплаціць сваім жыццём.

**— А жанчын не абражае такое халаднаватае стаўленне?**

— Што вы! Чачэнцы любяць сваіх жонак і дзяцей не менш, чым іншыя. Толькі не заведзена гэта паказваць на людзях. А потым, ведаеце, тут крыецца свая мужчынская хітрасць. Паводле чачэнскіх уяўленняў, каханне — гэта кветка, што расцвітае ў душы. І той, хто шмат гаворыць пра сваё каханне, адрывае ў гэтай кветкі пялёстак за пялёсткам.

**— Вы сказалі, што вызначальныя рысы чачэнскага характару важна зразумець іншым. А вас не здзіўляюць некаторыя з каўказскіх звычаяў? Мяне, напрыклад, трохі шакіравала: жанчыны прыслугоўваюць мужчынам і гасцям за сталом, а самі, як ні прасі, не прысядуць да яго...**

— І не варта прасіць. Ведаеце, не ходзяць са сваім статутам у чужы манастыр. Мне здаецца, што расіян менавіта гэта і падводзіць — жаданне ўсіх навучыць жыць толькі па іх статуту. Шмат што і мне было дзіўна напачатку. Вось, напрыклад, спярша запрашаюць да стала старых. У нас заўсёды першымі кормяць дзяцей. Потым зразумела: шанаванне старых — перадумова павагі да чалавека, да асобы. Там старыя бацька альбо маці — не адпрацаваны матэрыял, іх не запхнуць як непатрэбнае ў дом для састарэлых. Цяпер шмат хто ставіцца да чачэнцаў як да тэрарыстаў, азвярэлых бандытаў. Уключыце тэлевізар, пачуеце сінонімы: чачэнец, бандыт, галаварэз. Аднак мала хто скажа: калі да іх з мірам, дабром — і да вас гэтак жа. Госцю спадабалася нейкая рэч, пахваліў — падаруе; кажам, горы ў нас цудоўныя — заходзь «на баранчыка»... Але і за крыўду «аддзячаць»: чачэнцы занадта гордыя, каб іх лічылі рабамі.

**— Вашыя родзічы нічога не мелі супраць, калі вы выходзілі замуж за чачэнца?**

— Джахар прыходзіў да нас дадому і проста паланіў маіх бацькоў сваім шанаваннем старэйшых і галантнасцю ў адносінах да жанчын. Яны такога не бачылі сярод маіх расійскіх равеснікаў. Калі збіраемся ў кіно — заўсёды запросіць тату і маці, першы адчыніць дзверы, устане ў іх прысутнасці, падасць руку... І ўсё гэтак натуральна, бо павага да старэйшых у іх у крыві. Канешне, ён вельмі спадабаўся маім родным. Праз Джахара яны ўспрымалі наогул усіх чачэнцаў.

**— А цяпер, калі распачалася такая страшная, такая працяглая вайна, ваш бацька, стары расійскі афіцэр, не змяніў свайго стаўлення да чачэнцаў?**

— Ён хацеў прыехаць на чачэнскія барыкады яшчэ на пачатку вайны, толькі я яго не пусціла, не дазволіла, каб ён паехаў — бацька сапраўды ўжо вельмі стары і хворы, здае сэрца. А наогул большасць маіх родзічаў і знаёмых у Расіі падтрымлівае Чачню не з пачуцця салідарнасці з Джахарам — яны проста разумеюць, што вайна, распачатая крамлёўскімі палітыкамі супраць маленькага народа, — брудная і несправядлівая вайна.

**— Калі не памыляюся, вы пакінулі Чачню вясною 1995 года. Тады, відаць, апошні раз бачыліся з мужам і старэйшым сынам. Ці атрымліваеце вы ад іх якія-небудзь весткі? Як ваш малодшы сын пераносіць расстанне з бацькам?**

— Калі нас вывозілі з Чачні, я нібы раздвоілася. Мне хацелася ўратаваць малога сына і ўнукаў. Тых, што былі і што меліся быць. Разам з тым я пакідала там другую палову сям'і, пакідала, не ведаючы, што з імі будзе, ці давядзецца нам калі зноў сабрацца ўсім разам. Канешне, я хацела б у той жахлівы час быць поруч з Джахарам. Канешне, і яму было цяжка развітвацца з намі, хаця, як заўсёды, не паказваў гэтага, жартаваў, усміхаўся. Ён і праўда вагаўся, ці варта нас адпускаць: найлепшы ж прытулак — родныя горы. Аднак федэральныя войскі набліжаліся, самалёты прасавалі бомбамі горы, як дбайная гаспадыня настольнік. І мы паехалі...

**— Пані Дудаева, для вас, мабыць, не таямніца, што існуе шмат людзей, якія разважаюць: ці не гуляе хітры Джахар на правілах, навязаных іншымі? Гуляе ў гульні, дзе імкненне чачэнцаў да незалежнасці — толькі прыкрыццё для чыіхсьці інтарэсаў, а сам народ — проста пешка ў гэтых гульнях.**

— Не таямніца. Але, напэўна, для гэтых людзей характар Джахара — таямніца. Канешне, жонка не можа быць добрым суддзёй, яна, хутчэй, адвакат, таму не буду ўдавацца ў эмоцыі. Я толькі распавяду, як Дудаеў «дарваўся да ўлады», каб «прыкрыць свае крымінальныя інтарэсы».

Колькі разоў земляка-генерала запрашалі стаць старшынёю Нацыянальнага кангрэса чачэнскага народа, ён кожны раз адмаўляўся. Тады прыехалі ў Тарту старэйшыны — і Джахар згадзіўся: не пасмеў запярэчыць старэйшым. Так мы пераехалі ў Грозны.

Пасля абрання прэзідэнтам Джахар некалькі разоў змяняў састаў Кабінета Міністраў Чачні. Ён сапраўды жорстка абыходзіўся з людзьмі, якія за грошы былі гатовы пайсці на злачынства. Тыя, каго здымаў з пасады прэзідэнт, пераходзілі да Масквы.

**— Пані Дудаева, як вы коратка ахарактарызавалі б мужоў-чачэнцаў?**

— Чачэнец — сумесь англічаніна з японцам. Манерамі ён падобны да выкшталцонага брытанца, а натурай, звычаямі — да японца-самурая. Калі я крыўдзілася на Джахара, даракала яго: да вяселля ты быў джэнтльменам, пасля — самураем...

Цяпер Ала Дудаева на мужа не крыўдзіцца. Яна з нецярплівасцю чакае сустрэчы. І чыста па-жаночы хвалюецца: «Не ведаю, як Джахар паставіцца да маёй прычоскі. Ад перажыванняў так выпадаюць валасы...»

На наступны дзень Ала Дудаева вярталася ў Чачню.

*«Голас Украіни», № 17, 1996.*

**Пераклад з украінскай Пятра РАГОЙШЫ.**

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА ГЭТЫ ТЫДЗЕНЬ

## З ДЭЛІ ПЕРАДАЕ КАР. ІТАР—ТАСС ЮРЫЙ КАЗЬМІН

КАЗЯРОГУ на наступным тыдні трэба тужэй зацягнуць пояс. Як мяркуюць астролагі, вялікая магчымасць аказацца ў даўгах. Дарэчы, у бліжэйшай будучыні вы зможаце залатаць усе дзіркі ў сямейным бюджэце. Як гэта зрабіць, вам падкажа ваш новы знаёмы. Маладым трэба выкарыстаць параду старэйшых членаў сям'і.

ВАДАЛЕЮ трэба апасацца новых знаёмстваў у бізнесе. Як высветліцца, гэтыя людзі не дапамогуць вам выбрацца з тых складаных сітуацый, у якіх вы апынуліся. Цяпер пажадана ненадоўга адкласці ўсе здзелкі, для гэтага наступіць больш спрыяльны час, але трэба набрацца цярпення. У гэтыя дні вам неабходна пасачыць за дыетай.

РЫБЫ могуць брацца за любую справу, цяпер ім ва ўсім дапамагаюць планеты. Асабліва спрыяльная сітуацыя цяпер складваецца для тых, хто заняты на тэлебачанні, у журналістыцы. Ёсць магчымасць атрымаць павышэнне па службе або цудоўна выканаць даручэнне, што павысіць ваш аўтарытэт у вачах калег. Магчыма, у выхадныя адправіцеся на дачу або зробіце захапляючую загарадную прагулку.

Паспяховае правядзенне АВЕНАМ даўно задуманай справы яшчэ больш павысіць яго дзелавую актыўнасць. Астролагі ўпэўнены, што вы ўсяго зможаце дабіцца, спадзеючыся на вашу інтуіцыю і ўменне падбіраць партнёраў. Некаторым з вас удасца наведаць з дзелавой мэтай адну з дзяржаў Еўропы. У сям'і наладжваецца поўнае ўзаемаразуменне. У студэнтаў наперадзе важныя экзамены, на якіх вы зможаце паказаць добрыя веды вывучаемага прадмета.

Даволі спакойна пройдуць гэтыя дні ў ЦЯЛЬЦА. У той жа час астролагі раяць бізнесменам строга захоўваць парадак у дакументацыі. У сярэдзіне тыдня атрымаеце каштоўныя звесткі аб вашым дзелавым партнёры, і гэта прымусіць вас змяніць планы. Сварка з хатнімі можа прывесці да сур'ёзных ускладненняў у сям'і. Апасайцеся зносінаў з незнаёмымі людзьмі ў магазінах.

Вельмі адказны перыяд наступае для БЛІЗНЯТ. Пастарайцеся выканаць выдатна даручанае вам на службе заданне, гэта акажа ўплыў на ваш далейшы рух па службовай лесвіцы. Любы збой можа мець для вас даволі небяспечныя вынікі. Ініцыятыва будзе станоўча ўспрынята вашымі дзелавымі партнёрамі, зможаце заключыць выгадную здзелку.

Астролагі раяць праявіць больш кемлівасці РАКУ, які зможа тады не ўпусціць спрыяльнай магчымасці. Пастарайцеся пазбягаць канфліктных сітуацый на службе, адзін з вашых блізкіх знаёмых спрабуе ўцягнуць вас у непатрэбныя дэбаты, якія могуць адбіцца на вашых адносінах з саслужыўцамі. Магчыма, некаторых з вас чакае павышэнне па службе.

ІЛЬВЫ ўступаюць у перыяд прыняцця адказных рашэнняў. У вас ёсць цудоўныя магчымасці дабіцца сваіх мэтаў. Астролагі ў той жа час раяць праявіць больш ініцыятывы і спадзявацца на сваю інтуіцыю. У канцы тыдня, магчыма, вы атрымаеце каштоўны падарунак ад любімай жанчыны, з якой у апошні час у вас устанавілася поўнае ўзаемаразуменне. Памятайце: ваша лодка вас слухаецца, і вецер кахання напаўняе ветразі.

Даволі напружаным выдасца гэты тыдзень у ДЗЕВЫ. Не варта ўдзельнічаць у азартных гульнях — гэта можа аказацца небяспечным. Вакол вас у гэтыя дні нямала авантурыстаў. У той жа час значна лепш ідзе бізнес у тых, хто заняты ў гандлі. Тым, хто заняты ў медыцыне, могуць прапанаваць новае месца. Некаторым з вас неабходна ў гэтыя дні зменшыць нагрузку на службе.

ШАЛЯМ неабходна праявіць як мага больш асцярожнасці ў фінансавых пытаннях. Заступніцтва важнай персоны акажацца вельмі карысным для вас у гэтыя дні. Студэнтам неабходна больш часу ўдзяляць вывучэнню навук, надыходзяць важныя экзамены. У адносінах з дамашнімі цяпер наступіла поўная гармонія. Пазбягайце прастудных захворванняў. У канцы тыдня вам могуць паднесці каштоўны падарунак.

Даволі аднастайна пройдзе гэты тыдзень у СКАРПІЁНА, які не адчувае ўздыму жыццёвых сіл. Як указваюць зоркі, у бліжэйшы час сітуацыя зменіцца. Некаторыя з вас могуць адправіцца ў паездку з кампаніяй старых знаёмых. Закаханым трэба больш часу ўдзяляць адзін аднаму з тым, каб пазбегнуць ўскладнення адносінаў.

СТРАЛЬЦУ ў гэтыя дні можна ўстанавіць новыя дзелавыя знаёмствы, якія дапамогуць у далейшым бізнесе. Асабліва важна ў гэтыя дні старанна сачыць за ходам намечаных мерапрыемстваў, у якіх удзельнічаюць і вашы дзелавыя партнёры. Магчыма, спатрэбіцца ваша ўмяшанне для таго, каб завяршыць адну здзелку, якая можа значна стабілізаваць ваш сямейны бюджэт. Сачыце ў гэтыя дні за правільным харчаваннем.

## ЦІКАВА

### ЯДЗЕРНЫЯ ВЫПРАБАВАННІ — ПРЫЧЫНА МНОГІХ СТЫХІЙНЫХ БЕДСТВАЎ

**Начальнік радыеметрычнай лабараторыі Башгідрамета сп. Фаткулін (г. Уфа) на падставе статыстычнага аналізу вымярэнняў гама-фону выпраменьванняў зямной кары і космасу высветліў залежнасць паміж ядзернымі выбухамі, пагаршэннем надвор'я і землятрусамі.**

Праз 9 дзён пасля ядзерных выбухаў у некаторых раёнах планеты ўзнікаюць пахаладанні, паводкі, смерчы і г. д., а праз 40 дзён (дакладней — у інтэрвале 39—42 дні) адбываецца землятрус. Так, пасля атамнага выбуху ў Кітаі 17 жніўня 1995 г. у Інгушэціі 25 верасня адбыўся землятрус 7-8 балаў, а ў Новай Зеландыі — вывяржэнне вулкана.

Выбух 6 верасня 1995 г. на атоле Муруроа выклікаў 15 верасня снег у Башкірыі (пасля 30-градуснай гарачыні), 17 верасня — тайфун над Японіяй, 18 кастрычніка — землятрус сілай 6,5 бала ў Афганістане і Таджыкістане.

Пасля другога французскага выбуху 2 кастрычніка 1995 г. у Японіі 11 лістапада адбыўся землятрус сілай 4,8 бала, і 13 лістапада — землятрус у Забайкаллі сілай 7,5 бала. 29 кастрычніка 1995 г. на атоле Муруроа быў праведзены трэці выбух. 7 лістапада адбылося рэзкае пахаладанне ў Малдавіі, 9 лістапада — ураган у Хабараўскім краі і на Сахаліне, 6—8 снежня — землятрус на Курылах і ў Турцыі і шэсць авіякатастроф.

Фаткулін робіць выснову: ядзерныя выбухі выклікаюць ваганні магнітнага поля Зямлі, гэта ў сваю чаргу генерыруе падземныя і іонасферныя токі, якія і выклікаюць адпаведныя падземныя і атмасферныя катастрофы.

Фаткулін распрацаваў методыку прагнозаў стыхійных бедстваў.

**Уладзімір АЛАЎ, РІА.**

### «НАЛЁТ» НЛА

**Як паведамляе карэспандэнт Тэры Інкогніта Уладзімір Георгіеў, «налёты» НЛА былі зафіксаваны афіцыйнымі службамі Беларусі і Украіны.**

Напярэдадні Новага года над Гомелем адзначаны пралёт некалькіх неапазнаных аб'ектаў. У афіцыйных зводках МУС Беларусі паведамляецца: у раёне праспекта Касманаўтаў дзяжурны нарад міліцыі назіраў «ідучае з воблачнасці да самай зямлі яркае фіялетавае святло. Каля пяці з паловай гадзін крыніца святла вісела на вышыні некалькіх соцень метраў і раніцай скрылася ў паўночна-ўсходнім напрамку ў моцным снегападзе. Фотаздымкі не атрымаліся з-за «складаных умоў надвор'я». У тыя ж дні над вёскай Наваселіца Івана-Франкоўскай вобласці (Украіна) было зафіксавана з'яўленне НЛА з іншымі характарыстыкамі. Паводле слоў відавочцаў, ад хмары аддзяліўся ярка-празрысты шар. На некалькі хвілін перапыніліся радыё- і тэлетрансляцыі, затое ў вёсцы стала светла як удзень.

**«Эфір- Дайджэст».**

## УСМЕШКА МАСТАКА



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

***Учора пачалася Трэцяя сядміца Вялікага посту.***

**У 1116 годзе** ў старажытнаславянскім літаратурным помніку — «Аповесці мінулых гадоў» — упершыню ўзгаданы Слуцк (Случеск). Быў цэнтрам удзельнага княства, з XIV ст. — у саставе Вялікага княства Літоўскага. у 1441 годзе атрымаў магдэбургскае права.

**12 сакавіка 1564 года** Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец выдалі першую друкаваную рускую кнігу — «Апостал».

**12 сакавіка 1566 года** прывілеем караля Жыгімонта Аўгуста зацверджаны Статут Вялікага княства Літоўскага — збор законаў феадальнага права, што дзейнічаў у 1566—88 гадах. Ён замацоўваў новыя адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, судовую сістэму княства. Быў напісаны на старабеларускай мове, перакладаўся на лацінскую і польскую мовы. Статут — выдатны помнік беларускага пісьменства і юрыдычнай думкі феадальнай эпохі.

**У гэты дзень** (дакладней — ноччу) **у 1801 годзе** быў забіты расійскі імператар Павел I. Прыйшоўшы да ўлады ў 1796 годзе, Павел I імкнуўся адпомсціць за забойства імператара Пятра III (1762 г.) і знішчыць усё, што было зроблена яго маці Кацярынай II. За пяць гадоў свайго кіравання праводзіў крайне непаслядоўную палітыку: у гэты час была ўзмоцнена цэнзура, закрыты межы, абмежаваны правы дваранства, пагоршылася становішча сялянства. Забойства цара было ўспрынята ў імперыі як вызваленне краіны. На прастол уступіў Аляксандр I.

Сто гадоў назад — **12 сакавіка 1896 года** — ажыццёўлена перадача першай у свеце радыёпраграмы Аляксандрам Паповым у Рускім фізіка-хімічным таварыстве.

**12 сакавіка 1868 года** ў вёсцы Студзянец (на тэрыторыі сучаснага Касцюковіцкага р-на) нарадзіўся пісьменнік, педагог, вядомы дзеяч рэвалюцыйнага руху Панцеляймон Лепяшынскі (памёр у 1944 г.).

**12 сакавіка 1916 года** ў Мінску была заснавана «Беларуская хатка» (дзейнічала да 1920 года) — клуб беларускай мастацкай інтэлігенцыі.

**12 сакавіка 1940 года** закончыўся савецка-фінскі ўзброены канфлікт, які пачаўся 30 лістапада 1939 года. У Маскве быў падпісаны мірны дагавор, граніца была адсунута на 150 км ад Ленінграда.

**У гэты дзень у 1990 годзе** пачаўся трэці нечарговы З'езд народных дэпутатаў СССР, на якім Міхаіл Гарбачоў быў выбраны прэзідэнтам СССР, Анатоль Лук'янаў — Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета. З'езд адмяніў славуты шосты артыкул Канстытуцыі СССР — аб кіруючай і накіроўваючай ролі КПСС.

### Цікава

***У 30-я гады ўсім грамадзянам СССР было прадастаўлена права памяняць прозвішча. Знайшліся дзесяткі тысяч жадаючых.***

Газета «Известия» публікавала з нумару ў нумар іх спісы. Сярод іх былі: Парфірый Іванавіч Палтарабацька, Міхаіл Давыдавіч Балда, Павел Нічыпаравіч Пудзель, Пётр Яўхімавіч Пёсік. Застаецца толькі здзіўляцца, як да сённяшняга дня дажылі такія бяссэнсавыя, а часам і крыўдныя прозвішчы, як Хвосцік, Мухамор, Казёл і інш.

### Мудрасць

Тое, што спакойна, можа быць утрымана ў спакоі. Тое, што яшчэ не з'явілася, можа быць лёгка папярэджана. Тое, што яшчэ слабае, можа быць лёгка зламана. Тое, чаго яшчэ мала, можа быць лёгка рассеяна. Тоўстае дрэва пачынаецца з тонкага сцябла. Дзевяціпавярховая вежа пачынаецца з кладкі маленькіх цаглінак. Падарожжа ў тысячу вёрст пачынаецца з першага кроку. Будзьце ўважлівымі да сваіх думак: яны — пачатак учынкаў. (Лао-Тсе).

### Чаму мы так кажам?

**Зарубіць сабе на носе.** Сэнс гэтага выразу дастаткова зразумелы: «зарубіць на носе» — значыць запомніць вельмі-вельмі моцна.

Многім пры гэтым, напэўна, уяўляецца, што сказана гэта не без жорсткасці: не вельмі прыемна, калі табе прапаноўваюць зрабіць на ўласным носе засечкі. Але страх дарэмны: слова «нос» у дадзеным выпадку не азначае орган нюху. Як гэта ні дзіўна, яно азначае «памятная дошчачка», «бірка для запісу». У старажытнасці непісьменныя людзі ўсюды насілі з сабой такія палачкі і дошчачкі і на іх рабілі розныя паметкі. Гэтыя біркі і называліся «насамі» — ад слова «насіць».

### Анекдот

*— Дзіўна! Як моцна мяняецца чалавек пасля вяселля!*

*— І не кажы. Да жаніцьбы мне падабаліся літаральна ўсе жанчыны.*

*— А зараз?*

*— Зараз... На адну менш...*

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 12 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**9.00** Тэлебачанне — школе. Музыка. 2-і клас. Сустрэча з маршам у музычных творах.
**9.15** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**10.10** «Апошняй вясною...» Фільм-канцэрт.
**10.40** «Марыца». Маст. фільм.
**11.45** «Быў дзень і час». Дак. фільм.
**12.35** «Карціна».1-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Пад адным дахам», «Плюх і Пліх». Мультфільмы.
**15.40** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. «Народная трагедыя». Васіль Быкаў і яго аповесць «Знак бяды».
**16.20** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей.
**16.45** «Невымоўнае». 1-я частка «Школьніца Вольга Бародзіч».
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Інваспорт. Шклоўская школа-інтэрнат.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** Вертыкаль.
**19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Сафіко Чыаурэлі і Ганна Ціханава ў фільме «Палёт начнога матылька».
**23.30** «Супергол».
**24.00** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 1-ы. 1-я серыя.
**13.00** «У заапарку — рамонт». Мультфільм.
**13.10** «Т.С.Н.»Серыял.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Драконы падзямелляў».
**14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
**14.50** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, або Сінема.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** ...Да шаснаццаці і старэйшым.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Адгадай мелодыю.
**19.00** Тэма.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.30** Аперацыя.
**20.45** Праграма перадач.
**20.50** Леанід Харытонаў у фільме «Вуліца поўная нечаканасцей».
**22.05** Масква—Крэмль.
**22.25** Прэс-клуб.
**23.35** Навіны.
**23.45** «Чароўная сіла мастацтва». Тэлефільм.
**0.50** Сем дзён спорту.

### Канал «Расія»

**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** «Пераадоленне». Дак. фільм з цыкла «Перамены ў маім жыцці» (Германія).
**15.45** Каляндар.
**15.55** Кліп-антракт. Валерыя.
**16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**16.20** Новая лінія. «Калі мы разам».
**16.50** «Дзірка». Мультфільм.
**16.55** Кінаафіша.
**17.10** Непапулярная тэма.
**17.25** Вуснамі дзіцяці.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Штаны». Маст. фільм.
**21.05** Прагноз надвор'я.
**21.10** Баскетбол. ЦСКА — «Па-Артэз» (Францыя).
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Экран крымінальных паведамленняў.
**22.50** «Спрут-6». 8-я серыя.
**23.45** Джаз-клуб.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113576. Індэкс 63850.
Зак. № 1246.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12